PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 35 (2050) ГОД XL БЕЛАСТОК 27 ЖНІЎНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Бор каля мястэчка Супрасль.* **Фота Міколы Гайдука**

*Ганна Кандрацюк*

## Пагроза ці легенда?

У Целушках, што ў Заблудаўскай гміне, з кожным годам пабольшваецца колькасць дачнікаў. Як грыбы пасля дажджу растуць новыя дачы. Беластачане ўпадабалі сабе лясное ўрочышча *Сітнікова* над рэчкай Нарвай.

— Яны нам у нічым не перашкаджаюць, — гаворыць солтыс Целушок, — яны сабе жывуць па-свойму, а мы па-свойму. *Грунт*, што ў вёсцы спакой.

Ад яго даведваюся, што зямлю прадалі самі гаспадары з Целушок.

— Спярша па долары за метр плацілі, а цяпер, гавораць, што ўжо па два з палавай. І мне калісьці там зямлю надзяліць хацелі, а я, дурань, пабаяўся пясок браць, — успамінае солтыс.

— Наш *жонд* вельмі добры, — захвальвае жыхарка вёскі, — вельмі добры! У нас у вёсцы ўсе рэнцісты. Зямлю на дзяцей, што ў гарадах, апісалі. Самі працуем, дзеці на работах і яшчэ пенсіі даюць. Калісь, бывала, на жэбры старых пасылалі.

У Целушках народ працавіты і вынаходлівы. Жыхары спецыялізуюцца ў агародніцтве.

— Нашая зямля вельмі агуркам спрыяе, — хваляць свае гоні вяскоўцы. Амаль у кожнай гаспадарцы свае *фоліі* з агуркамі, цыбуляй, памідорамі, капустай.

— Нас угаворвалі: „Як *гэтыя летнікі* зямлю купяць, то і мы разбагацеем. Будуць у нас купляць памідоры, малако, бульбу, лекары лячыць будуць", — успамінае іншы вясковец.

— А цяпер слабавата купляюць. Малако і тое з Беластока прывозяць, — дадаюць іншыя.

Калі пачынаю пытацца пра чутку, паводле якой у Целушках неўзабаве вырасце касцёл, мае суразмоўцы хмурэюць і моўкнуць.

— Пытайцеся ў тых, што *говорат*, — адрэзваюць разважна, але і вінавата.

У навакольных вёсках злосна каменціруюць паводзіны целушкоўцаў.

— Прадалі бацькаўскую зямлю, палакоміліся на грошы, — паўтараюць п'янаватыя аматары бутэлькі.

— Нам ужо няма чаго баяцца, — заяўляюць нянадта старыя аўтахтоны.

Паводле іншых, больш разважлівых, вінаватыя ўлады гміны, якія толькі і чакаюць на тое, каб ім, *рускім*, упароць фокуса.

— Мы не супроць палякаў, толькі чаму сярод гэтых дачнікаў няма ні праваслаўных, ні баптыстаў, ні жыдоў, — аргументуюць амаль усе.

— Хутка за парабкаў пойдзем; ідзіце, паглядзіце як жыватамі дагары ляжаць, — пасылае мяне дзядзька, паказваючы загарэлыя, шурпатыя далоні. — Ад чаго яны пабагацелі? Мы цэлае жыццё працавалі і нічога не маем, а яны, маладыя, ужо дачы маюць, — кіпеў ён.

Каб пазбегнуць рэвалюцыйных сюжэтаў як найхутчэй іду ў суседнюю вёску.

— Там зараз касцёл пабудуюць, — абвінавачваюць і тут целушкоўцаў.

— Па начах ён сніцца людзям, — заяўляюць старэчы. — А нам *то не грозі*, бо толькі на смерць чакаем, — разгаварыліся бабулькі, карыстаючыся найбольш зручным у жыцці момантам шчырасці.

У вёсцы баяцца, што калі будзе касцёл, то і будзе палітыка.

— А нам *паліцікі* не трэба, — і доўга

*Працяг на стар. 5*

*Юры Баена*

## У ЕДНАСЦІ ШАНЦ ПАРАТУНКУ

Жывем у перыяд неўпарадкаваных агульнадзяржаўных палітычных, гаспадарчых і грамадскіх перамен. Акрамя гэтага на роднай нам Беласточчыне вырашаецца лёс будучыні беларушчыны, праваслаўя, эканомікі рэгіёна ды праблемы-пытанні маральнасці яго насельніцтва, перш-наперш у адносінах да спадчыны. Усе справы аднолькава важныя!

Ва ўмовах новай дэмакратыі надышоў аднак доўгатрывалы час расчараванняў, апатыі, маразму, адсутнасці ясных перспектыў, нярэдка маральнага і духоўнага спусташэння, занікання крытычнай свядомасці, нацыянальнага песімізму і нігілізму, атамізацыі нашай грамадскасці, размывання этнічнасці Бацькаўшчыны, цывілізацыйнага яе заняпаду. Постбеларускае насельніцтва ўсходняй Беласточчыны яшчэ трывае ў паслябеларускім перыядзе гісторыі айчыннай зямлі. Цяжкі баласт некалькіх дзесяцігоддзяў і дэстабілізацыя ў апошнім часе зрабілі сваё. Не трэба быць Саламонам, каб не заўважыць, што рэзка звузіліся моўныя, культурныя, рэлігійныя і эканамічныя перспектывы нашай меншасці, а ў поўным засталася толькі перспектыва біялагічнай прысутнасці.

Усё, здаецца, нават тое простае, часам банальнае, патрабуе велізарных намаганняў, захадаў, нізкапаклонніцтва. У нас тут шмат немагчымага — немагчыма атрымаць назад Супрасльскі манастыр, ажыццявіць ідэю Беларускага інстытута культуры, спыніць агонію беларускай асветы, выбраць намеснікам ваяводы свядомага і дзейснага на ніве родных спраў беларуса, прадаваць кніжкі „белавежцаў" у кнігарнях, купіць „Ніву" ў кіёсках многіх гарадскіх кварталаў... Нямала ў тым нашай віны, малой настойлівасці, непаслядоўнасці ў патрабаваннях і дзеянні. Але ці ж гэта якраз заўсёды вырашальнае?

У беластоцка-падляшскай глушы відаць амаль кананічны холад, нярэдка і варожасць да ўсяго беларускага ды ўсходнеславянскага. У выніку шматгадовай ізаляцыі і маргіналізацыі нашай прысутнасці мы, беларусы, як нацыянальная меншасць перасталі быць партнёрамі для ваяводскіх, многіх гарадскіх і гмінных улад. Як другарадная або і трэцярадная маса страцілі мы абарончыя інстынкты, амаль нічога не патрабуем і баімося або ўжо і не патрапім сказаць, што нас найбольш баліць. Сёння рабская структура псіхікі нашага ўпаўшага народа праяўляецца не толькі ў адносінах да начальства ці незнаёмых, але гэтаксама па-польску многія звяртаюцца да коней ці сабак!

Аблог хутка зарастае зеллем і дзікай травой. Сёння добры час для трыумфу дэмакратыі рэалізаванай па-аматарску, замаскіраванага ў прыгожай упакоўцы псіхалагічнага ціску, свабоднага валодання няпраўдай, фальшывымі правіламі і ідэямі. У такім клімаце добра сябе адчуваюць усякія эгаісты, кан'юнктуршчыкі, хамелеоны, кар'ерысты, крывадушнікі, хрыстапрадаўцы, нацыянальныя рэнегаты і дэвіянты.

На Беласточчыне ўкаранілася даволі сімпатычнае, прывабнае паняцце многакультурнасці. Гэты погляд паўтараюць таксама і нашыя дзеячы, самаўраднікі, кандыдаты ў паслы і сенатары ды іншыя публічныя асобы. Аднак ува мне ўсё больш і больш замацоўваецца такое перакананне, што ад II сусветнай вайны — часоў знішчэння яўрэйскага народа і яго культуры ў гэтай частцы Еўропы, трэба лепш гаварыць пра польска-беларускі культурны дуалізм Беласточчыны.

Асабліва мясцовыя сродкі масавай інфармацыі здаўна экспануюць татарскую тэматыку. Незалежна ад найвялікшай пашаны да татараў, што жывуць сярод беларусаў Сакольшчыны, усё-такі ў маштабе ваяводства татарская праблематыка зводзіцца да паўночна-ўсходніх яго акраін (канкрэтна дзвюх вёсак), дзе таксама з увагі на вельмі малы лік гэтага насельніцтва займае яна ўсяго перыферыйнае месца. А беларусы — гэта ж 35% насельніцтва Беласточчыны. Тэрыторыя нашага кампактнага пражывання большая за палову ўсяе плошчы Беластоцкага ваяводства. Ва ўсходняй Беласточчыне мы ж статыстычная большасць.

Сатырык Міхал Агурэк пару гадоў таму назад у „Выбарчай газеце" пра польскую меншасць у чэшскім Заользі пісаў так: „Aby Polacy na Zaolziu mogli stanowić mniejszość narodową, muszą stanowić większość narodową, bo kiedy nie stanowią większości — nie stanowią też mniejszości".

Польскае грамадства Беласточчыны з'яўляецца моцна кансалідаваным рэлігійна-патрыятычным маналітам. Усякая раздробленасць з тэндэнцыяй да далейшай дэструкцыі выступае менавіта сярод беларускага насельніцтва. Прывабная многакультурнасць адбываецца за кошт падзелу беларускага этнасу. Гэты стан дае польскасці яшчэ большыя прывілеі, яшчэ большы камфорт дамінацыі. Тэорыя многакультурнасці павялічвае нацыянальную асіметрыю, кансервуе нам шкодны развал. Пры маладой неўстабілізаванай і яшчэ няпоўнай дэмакратыі на далёкай ад Еўропы правінцыі напрыклад з-за пэўнай палітычнай кан'юнктуры лёгка ўдаецца выносіць адны групы над другія, каб свядома дыскрымінаваць тыя другія. Шляхам хітрасцяў і маніпуляцый можна выклікаць публічныя сваркі, а нават і драматычныя канфлікты. Жыву аднак такой перакананасцю, што дэманы зла ўсё-такі не заваладаюць нашай Малой Айчынай.

Для нас, беларусаў, аўтахтонаў Беластоцкага краю няма альтэрнатывы — трэба трываць на сваім і не сыходзіць да ролі сутэнёраў. Як карэннай нацыі непрабачальным будзе тое, што затрацім свой этнічны, культурны, інтэлектуальны, маральны і эканамічны капітал. У ходзе падзей мы павінны зберагчы сваю тоеснасць, прадоўжыць культурнае трыванне, будучы ў адносінах да іншых свой нацыянальны прэстыж.

У ніводнай, нават найцяжэйшай, найбольш складанай і невыноснай сітуацыі нельга падвяргаць сумненню патрэбу нашай еднасці. Толькі тады мы вартыя, калі моцна аб'яднаныя.

Мы адно, яшчэ жывое дрэва. Таму заўчасна нельга драбніць яго на галінкі

*Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*У Беларусі практычна няма свабоды інфармацыі. Над прэзыдэнцкім домам у Менску і іншымі афіцыяльнымі ўстановамі зноў лунае стары бальшавіцкі сьцяг, а ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі зноў сталіся дзяржаўным сьвятам. Пасьля ганебнага рэферэндуму 14 траўня пачаўся наступ на беларускую мову і культуру, зьдзек над беларускімі сьвятынямі. У Менску сёньня часта небясьпечна гаварыць на вуліцы па-беларуску.*

*Зважай, н-р 4 (80)*

* * *

*Божа прасвятлы!.. Давялі няшчасных людзей амаль да поўнага бяспамяцтва, пазбавілі нацыянальнай сьвядомасці, ператварылі ў манкуртаў, і прапануюць ім добраахвотна выявіць сваю волю наконт лёсу роднай мовы, наконт сваёй нацыянальна-гістарычнай сімволікі, наконт суверэннасці і незалежнасці сваёй краіны. Большага дзяржаўнага цынізму я за сваё жыццё не бачыў. Колькі не цягнецца гэтае цынічнае хітраванне, як ні прыхоўваецца, ці маскіруецца прыгожымі словамі аб свабодзе, аб роўнасці, аб брацтве, а мэта застаецца адна і тая ж: Беларусь павінна стаць Северо-Западным краем ці проста адною з губерняў Расіі. Тым больш, што кандыдата на пасаду губернатара шукаць не трэба будзе*, — піша Ніл Гілевіч.

*Народная воля, н-р 2*

* * *

*Minister sprawiedliwości Jerzy Jaskiernia odwiedził Chiny. Spodobało mu się. Każdemu by się spodobało. Codziennie bankiet, a do tego koncert piosenek chińskich i amerykańskich. Ministrowi śpiewano nawet w chińskim więzieniu. Koncertowali autentyczni skazańcy. Władze chińskie znajdują wyjątkową satysfakcję w publicznych popisach swoich więźniów. Oprócz koncertowania, skazańcy uczestniczą w jeszcze jednym publicznym widowisku. Są to publiczne egzekucje. Najatrakcyjniejsze z nich są nawet transmitowane przez telewizję. Po masakrze na Placu Niebiańskiego Spokoju w telewizji był emitowany nawet cały serial ze skazańcami w roli głównej. Nabór do tego „widowiska" odbywał się wyjątkowo sprawnie. Aresztowanie, brutalne przesłuchanie z torturami włącznie, sąd, który w trybie przyśpieszonym skazywał wyłącznie na karę śmierci zazwyczaj za zdradę i szpiegostwo i już można było stawać przed kamerą telewizyjną. Niestety kariery filmowej nie dało się zrobić, gdyż specyfika tego „widowiska" polegała na tym, że skazaniec może wziąć w nim udział tylko raz.*

*Ministrowi sprawiedliwosci podobała się wizyta w Chinach do tego stopnia, że zamierza tam wysłać polskich sędziów, prokuratorów, strażników więziennych. Po nauki.*

*Gazeta Współczesna, nr 150*

* * *

*W Mołodecznie już osiem razy nieznani sprawcy usuwali z dachu siedziby władz miejskich czerwono-zielony sztandar i zamieniali go na biało-czerwono-biały. Nie pomogło ani zatrudnienie nocnego stróża, ani nawet obcięcie drabiny przeciwpożarowej. Ostatecznie władze wzniosły nowy maszt — znacznie wyższy. Rekord wysokości pobiła jednak opozycja. Oficer milicji z miasteczka Liozno podczas niedawnego Dnia Niepodległości musiał wdrapać się na 40-metrowy komin, aby zdjąć z niego zawieszony w nocy przez nieznanego opozycjonistę-ryzykanta biało-czerwono-biały sztandar. Wcześniej podejmowano próby zestrzelenia „antypaństwowej" flagi.*

*Gazeta Wyborcza, nr 180*

Цікава адзначалі Дзень Незалежнасці ў Лёзна!

* * *

*W krajach powstałych na terenie byłego ZSRR pokutuje przekonanie o szczególnym charakterze wszelkich papierów, na których widnieje odcisk okrągłej pieczęci. „Krugłaja pieczat'" potrafi otworzyć niejedne drzwi, a tym bardziej jeśli odbita jest na czerwono. Nie wiadomo dokładnie jaka jest geneza tego zabobonu. Szczyt szacunku budzą pieczęci wyciskane w papierze (bez tuszu), najlepiej z jakimś herbem w środku.*

*Najwyższy Czas, nr 31*

Як гаварыў адзін з нашых дзеячоў, „хто мае пячатку, той мае ўладу".

* * *

*W Jasenovac, jednym z największych miejsc martyrologii narodu serbskiego podczas II wojny światowej w Zachodniej Slawonii, po zajęciu tego obszaru przez Chorwatów w czerwcu br. została złupiona i sprofanowana cerkiew prawosławna. Stół Pański służył Chorwatom jako stół do jedzenia. Czasza była pełna plwocin i niedopałków papierosów. Na pomniku wzniesionym ku czci setek tysięcy Serbów, którzy zginęli w ustaszowskich obozach zagłady w latach 1941—1945 były ślady świeżej krwi. Po 50 latach Chorwaci ponownie tam mordowali Serbów. W Zachodniej Slawonii chorwacka ofensywa doprowadziła do całkowitego zniszczenia cerkwi i monasterów, zamordowano 4 tysiące Serbów, pozostałych zmuszono do opuszczenia domostw. Społeczność międzynarodowa pozostała obojętna na tę tragedię Serbów.*

*Przegląd Prawosławny, nr 8*

У польскіх сродках масавай інфармацыі можна толькі прачытаць ці пачуць, што харваты — гэта вельмі цывілізаваны, хрысціянскі народ, які абараняе заходнюю цывілізацыю ад сербскага дзікунства.

Такое там балканскае „przedmurze".

* * *

*Panie Moczulski! Odgrywasz pan wielkiego prawicowca, w Konwenty kościelne się pchasz, do prezydentury startujesz, antykomunistą się mianujesz. Jakiż z pana chojrak. A przecież byłeś pan na liście agentów bezpieki Macierewicza. A miałeś pan odwagę przyznać się do tego. Pan żeś się zachował jak tchórz.*

*Gazeta Polska, nr 31*

Вядзецца сур'ёзная палітычная дыскусія сярод палітыкаў. Значыць, набліжаюцца выбары.

# З мінулага тыдня

**Расейская Дума** павінна бараніць прэзідэнта Беларусі **Аляксандра Лукашэнку** ад атакаў расейскіх журналістаў, — напісаў у лісце маскоўскім парламентарыям шэф Адміністрацыі прэзідэнта **Віктар Замяталін**. Прычынай напісання ліста ў Думу стала публікацыя аб прэзідэнце РБ у газеце „Комсомольская правда". У артыкуле журналіст напісаў не толькі аб тым, што прэзідэнт не выканаў перадвыбарчыя абяцанні і што яму падабаюцца аўтарытарныя парадкі, але і аб сімпатыі да лекаркі, якая сочыць за ягоным здароўем, тады калі жонка далей жыве ў саўгасе і займаецца гаспадаркай. Замяталін запатрабаваў у Думы адмяніць заслугоўваючую пакарання абыякавасць у адносінах да „палітычных акцый, якія вядуцца на старонках расейскіх выданняў акрэсленымі коламі" і прыгразіў прыпыніць распаўсюджванне некаторых расейскіх газет на тэрыторыі Беларусі.

**Прэзідэнт Лех Валэнса** скасаваў пастанову Краёвай Рады Нарадовай ад 1946 г. аб прысваенні ген. **Івану Сярову** Ордэна „Virtuti Militari". Сяроў ад 1939 г. быў народным камісарам унутраных спраў Украіны, а ў 1944 г. кіраваў на тэрыторыі Польшчы савецкімі органамі дзяржбяспекі, якія займаліся ліквідацыяй польскай падпольнай дзяржавы.

**Польска-беларуская камісія** прасторавай гаспадаркі распрацавала рапарт „Асновы прасторавага добраўпарадкавання прыгранічных рэгіёнаў Польшчы і Беларусі". У ім вылучаюцца 4 функцыянальныя рэгіёны: Сувальска-Мар'ямпальскі (гандлёва-прамысловы), Аўгустаўска-Друскеніцкі (прыродна-адпачынковы), Беластоцкая і Гродзенская агламерацыі (з улікам Ваўкавыска) ды прыродны комплекс Белавежскай пушчы. Названыя рэгіёны — аб'ект супольных планіровачна-прасторавых распрацовак. У гэтым годзе вядуцца работы па падрыхтоўцы плана развіцця Беластоцкай і Гродзенскай агламерацый.

**Міжнародны тэалагічны праваслаўны інстытут** будзе арганізаваны ў будучым годзе. Такое рашэнне прынялі ўдзельнікі Міжнароднага праваслаўнага лагера, які закончыўся 13 жніўня ў Супраслі. Прыняло ў ім удзел 90 чалавек з усяго свету, між іншым з Беларусі, Грэцыі, Францыі, Канады, Злучаных Штатаў Амерыкі. Арганізатарамі шасцідзённага лагера выступілі: „Сіндэсмас", Брацтва праваслаўнай моладзі і Вышэйшая праваслаўная семінарыя ў Варшаве. У рамках планаванага інстытута перад моладдзю на працягу 10—14 дзён у якасці выкладчыкаў выступілі б найбольш вядомыя тэолагі з усяго свету.

**Напярэдадні Праабражэння Гасподняга** на Святую Гару Грабарку прыйшлі паломнікі з усёй Польшчы і многіх краін свету. З Беластока прыйшло двухтысячнае IX Агульнапольскае пешае паломніцтва з удзелам пілігрымаў з Літвы і Беларусі. Паломнікі маліліся за вяртанне Супрасльскага манастыра Праваслаўнай царкве.

**Управа горада Беластока** дала згоду на продаж часткі будынка па вуліцы Сураскай 1 для Управы рэгіёна „Салідарнасці", якая хоча купіць офісныя памяшканні і гаражы, з выключэннем падвала, дзе знаходзіцца рэстаран. У згаданым будынку, які ў мінулым называлі Домам прэсы, знаходзяцца між іншым рэдакцыі „Нівы" і „Часопіса".

**Дэлегацыя гарадскіх улад Гайнаўкі** па запрашэнні ўлад горада Венерсборг пабывала ў Швецыі. Мэтай візіту быў абмен вопытам у галіне аховы асяроддзя, сацыяльнай дапамогі, спорту і турыстыкі, а таксама арганізацыі працы самаўрадавай адміністрацыі.

**У вёсцы Ханькі** Мілейчыцкай гміны ад аварыі электрычнай устаноўкі згарэлі жыллёвы будынак, гараж і млын, пабудаваны ў 1935 годзе. Гэты апошні аб'ект быў занесены ў спіс помнікаў культуры Беластоцкага ваяводства.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


- У Менску збіраюцца пісаць новую гісторыю Беларусі.
- Першыя дні свабоды ва ўспамінах Аляксандра Бірыцкага.
- Свята Праабражэння Гасподняга на Грабарцы.


# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Памёр Максім Танк

Пасля цяжкай і працяглай хваробы на 83 годзе жыцця 7 жніўня памёр Максім Танк. Пасля Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі Максім Танк заставаўся адным з нямногіх магікан, чыя творчасць і асабістая энергія абаранялі гонар і годнасць беларускай літаратуры. Да апошніх дзён свайго доўгага і нялёгкага жыцця паэт заставаўся верны выбранаму ў далёкіх трыццатых гадах творчаму крэда: пісаць ярка, эмацыянальна, глыбока і з тонкім лірычным настроем. Народны паэт Беларусі пахаваны на радзіме — у вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна.

## Падарунак беластоцкім дашкольнікам

У Беласток збіраецца прыехаць дэлегацыя Міністэрства адукацыі і навукі на чале з першым намеснікам міністра Генадзем Пятроўскім. У гэтым польскім горадзе будзе адкрыты першы дзіцячы садок, у якім заняткі будуць весціся на беларускай мове. Для гэтага беларускага садка ўрад Беларусі падрыхтаваў падарункі: навучальныя дапаможнікі, метадчыную літаратуру, неабходны нагляднy матэрыял.

## Збытак свят

Урад Беларусі мае намер выйсці ў Вярхоўны Савет з прапановай аб скасаванні шэрагу дзяржаўных свят. Пра гэта заявіў на прэс-канферэнцыі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Ён падкрэсліў, што эканоміка Беларусі, якая перажывае не лепшы час, не можа вытрымаць паўтара дзесятка святочных дзён у год.

## Патрыяршая ўзнагарода

Традыцыі высокай духоўнасці і гуманізму, высакароднасць і мецэнацтва — гэтыя паняцці заўсёды былі блізкія і зразумелыя лепшым прадстаўнікам беларускага бізнесу. А спонсарская дзейнасць і ахвяраванні на карысць адраджэння нацыянальнай культуры, дапамога інвалідам, хворым, сіротам, праграма падтрымкі Царквы, якую пяць гадоў ажыццяўляе адзін з буйнейшых банкаў рэспублікі „Беларусьбанк" заўважана патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем II. Сведчанне таму — узнагароджанне старшыні праўлення „Беларусьбанка" Тамары Віннікавай царкоўным ордэнам святой роўнаапостальнай вялікай княгіні Вольгі. Высокую ўзнагароду ўручыў мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі.

## Гарэў храм

Пацярпеў ад пажару Свята-Нікольскі манастыр у Магілёве, помнік гісторыі і архітэктуры, які ўваходзіць, паводле звестак ЮНЕСКО, у лік шасці самых старажытных у свеце храмаў. Насельніцы манастыра як маглі змагаліся з агнём. Тым не менш згарэла вельмі каштоўная музейная ікона, палова старадаўняга іканастасу, разбураны падлога і кліpас. Зараз храм знаходзіцца на рэканструкцыі і службы праводзяцца вельмі рэдка.

## Беспрацоўе ў Менску

Па падліках Менскага гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва ў жніўні і верасні у Менску чакаецца буйное вызваленне працоўнай сілы. Яно будзе прама звязана са скарачэннем штатаў у Аб'яднанні „Мотавела", у Менскім маторным заводзе, а таксама ў сувязі з ліквідацыяй Акцыянернага камерцыйнага банка „Еўрапейскі". Незадоўга да гэтага было скарачэнне на Абутковым аб'яднанні „Прамень", на заводах „Транзістар" і імя Арджанікідзе. Паводле прагнозаў спецыялістаў, да канца гэтага года чакаецца павелічэнне колькасці беспрацоўных у беларускай сталіцы да 25 тысяч чалавек, а ўзровень беспрацоўя ў Менску вырасце да 2,3%.

## Плата натурай

Ужо не першы месяц працаўнікі калгаса „Праўда" Глускага раёна атрымліваюць зарплату малочнымі і мяснымі прадуктамі: маслам, сырам, каўбасамі, рулетамі. За калгасныя жывёлу і малако заказчыкі разлічваюцца перапрацаванай прадукцыяй.

## Пажар у цягніку

У раёне Маларыты ў вагоне поезда Ковель—Брэст адбыўся пажар, у выніку якога адзін пасажыр загінуў і адзінаццаць чалавек шпіталізаваны. Узгаранне адбылося па віне аднаго з пасажыраў, грамадзяніна Украіны, які знаходзіўся ў вагоне ў нецвярозым стане. Пажар узнік у выніку згарання спірту ад кінутага акурка. Папярэднім следствам устаноўлена, што ўкраінскі „прадпрымальнік" спрабаваў правезці ў Беларусь некалькі каністраў спірту і пяць скрынак самаробнай гарэлкі для вырабу і продажу на Брэстчыне гарэлкі з прыгатаванымі раней этыкеткамі. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўзяў пад асабісты кантроль расследаванне трагічнага інцыдэнту, у якім праявілі поўнае бяздзеянне ўкраінскія мытнікі і высокую аператыўнасць работнікі беларускай міліцыі, хуткай дапамогі і беларускай чыгункі.

# Экалогія ў Гайнаўцы

Гайнаўка — адносна малады горад Беласточчыны. Яшчэ некалькі соцень гадоў таму шумеў тут першабытны лес. Горад развіваўся на вырванай у Белавежскай пушчы тэрыторыі. Зараз налічвае ён 24,2 тысячы жыхароў (паводле даных 1992 г.) і з'яўляецца трэцім па велічыні горадам у ваяводстве. Хаця існуе ў ім многа крыніц забруджанняў, чысціня паветра ў Гайнаўцы не такая ўжо і кепская, нягледзячы на тое, што ў гэтым прамысловым горадзе атрутныя рэчывы пускаюць у паветра мясцовыя вуглекацельні і аўтатранспарт.

Горад і гміна Гайнаўка выпусцілі ў атмасферу ў 1993 г. 366,2 тысячы тон двухвокісу серы, што складае 2,56% забруджанняў у маштабе Беластоцкага ваяводства. Эмісія двухвокісу азоту склала 161,2 тыс. т, вокісу вугляроду — 930,7 тыс. т і пылаў — 451,8 тыс. т (5,75% у маштабе ваяводства). Апрача тыповых энергетычных забруджанняў сумесна з існаваннем прамысловасці выступае небяспека забруджання паветра яшчэ іншымі рэчывамі. У Гайнаўцы найбольшыя шкоды наносіць дрэваапрацоўчая і мэблевая прамысловасць, а менавіта Гайнаўскае прадпрыемства сухой перагонкі драўніны і Фурнел Лімітыд. У 1993 г. быў праведзены кантроль чатырох заводаў у горадзе. Побач згаданых ужо фірм правяраліся яшчэ Прадпрыемства лясной прадукцыі „Ляс" і Акружны малочны кааператыў. Усе гэтыя заводы перавысілі дапушчальныя нормы эмісіі забруджанняў і былі аштрафаваны Ваяводскім інспектаратам аховы асяроддзя ў Беластоку. У 1991—1993 гадах Дзяржаўная санітарная інспекцыя таксама вяла даследаванні ступені забруджання паветра пры вуліцы Пілсудскага 14. Даследчыкі дайшлі да вываду, што ўсе віды забруджанняў змяншаюцца. Было гэта вынікам лагодных кліматычных умоў у зімовыя перыяды апошніх гадоў, ліквідацыяй некаторых крыніц эмісіі (з увагі на гаспадарчую рэцэсію), а таксама ўвядзеннем новых ацяпляльных сістэм у аднакватэрным будаўніцтве. Улічваючы тое, што зімы не заўсёды будуць мяккія, а Гайнаўка знаходзіцца ў непасрэдным суседстве ахоўваемай пушчы, істотную ролю ў ахове асяроддзя адыграе планавая газіфікацыя хатніх гаспадарак, а таксама ўвядзенне бяспечных для асяроддзя сістэм атрымоўвання энергіі ў новых і мадэрнізаваных інвестыцыях (спальванне нізкасернага паліва).

Вельмі важнай справай з'яўляецца таксама водная гаспадарка. Гайнаўка распалажана ў басейне рэчкі Лясной, якая характарызуецца некарыснымі гідрабіялагічнымі ўмовамі. Паказчык водаправоднага забеспячэння ў горадзе складае 83,2% і горшы ён толькі за Беласток (97%). Гайнаўка была таксама другім пасля Беластока горадам, які адчувае недахоп вады. У год гораду бракуе 14,6 тыс. кубаметраў вады. Выкарыстанне мясцовых водных рэсурсаў у Гайнаўцы ацэньваецца на 65%. Найбольш вады зрасходвае Прадпрыемства сухой перагонкі драўніны — 200 696, Малочны кааператыў — 156 775 і Фурнел Лтд — 149 550 кубаметраў у год.

Намнога горш выглядае сцёкавая гаспадарка. Гайнаўка каналізавана ў 52,8% (ваяводства — 73,2%). Горад адводзіць 1 млн. 400 тыс. кубаметраў сцёкаў біялагічна ачышчаных і 100 тыс. кубаметраў неачышчаных. Ачышчальня не ў змозе ачысціць усе вадкія нечыстоты, сплываючыя з горада, які не спыняе разбудоўвацца. Паказчык нагрузкі гарадской ачышчальні складае 404,2% і на практыцы немагчыма ачысціць усе сцёкі, якія тут уліваюцца, а некаторыя параметры вадкіх адходаў пасля ачысткі атрымоўваюцца горшыя, чым перад ачышчэннем. У такой сітуацыі існуе неадкладная патрэба завяршэння пабудовы новай ачышчальні. Але самой Гайнаўцы не пад сілу справіцца з гэтай праблемай. Нацыянальны фонд аховы асяроддзя прызначыў на гэтую мэту 15 млрд. старых злотаў крэдыту. Але гораду спатрэбіліся б таксама датацыі, адзначае бурмістр Ядвіга Рудзінска-Патэюк. У 1993 г. кошт пабудовы ачышчальні расцэньваўся на 38 млрд. зл. Да гэтай пары было перададзена 15 млрд. зл. у форме датацыі ад Фонду польска-нямецкага супрацоўніцтва і 21,5 млрд. зл. ад Экафонду. Гэтая значная інвестыцыя мае быць завершана ў маі 1977 г. Але пакуль што неачышчаныя камунальныя і прамысловыя сцёкі трапляюць у раку Лясную-Правую, якая выцякае на поўнач ад горада і на 27,7 кіламетры пакідае межы Польшчы і ўплывае на тэрыторыю Беларусі. Вышэй горада стан чысціні вады ў рацэ адпавядае III класу, але ўжо ніжэй Гайнаўкі якасць вады пагоршваецца і лічыцца пазакласнай. Стан чысціні вады ў рацэ з году ў год горшае і адмоўна ўплывае на экалогію значнай часткі Белавежскай пушчы.

Некарысны з'явай трэба палічыць прысутнасць у горадзе надта шкодных для асяроддзя заводаў. З ліку чатырнаццаці такіх прадпрыемстваў, пералічаных у „Рапарце аб стане ася- роддзя ў Беластоцкім ваяводстве ў 1993 г." аж два знаходзяцца ў Гайнаўцы: Прадпрыемства сухой перагонкі драўніны і Прадпрыемства камунальнай і жыллёвай гаспадарак.

Гарадскія адходы вывозяцца на звалку ў Парыеве, якой карыстаюцца з 1963 г. і якая ўжо выкарыстаная ў 95%. На плошчу велічынёй у 8,5 гектара кожны год завозіцца 25 тысяч кубаметраў адпадкаў. Звалка распалажана на ўсходнім баку шашы Гайнаўка—Кляшчэлі і знаходзіцца ўжо ў зоне ахоўваемага ландшафту. Цяпер вядзецца будова другой звалкі па другі бок гэтай шашы. На жаль, у ваколіцы Гайнаўкі лёгка натрапіць на дзікія звалкі, напрыклад на абочыне пушчы за новым шпіталем. Незаконныя звалкі — гэта вынік нізкай экалагічнай культуры і свядомасці людзей. Адміністрацыйныя загады і забароны не надта многа зменяць.

На заканчэнне прапаную нешта экстраннае, а менавіта незвычайную пагрозу, якую стварае чыгуначны пуць па перавозу атрутных прамысловых рэчываў, якога маршрут пралягае з Седльцаў цераз Семяноўку ў Свіслач. З гэтай прычыны цераз Гайнаўку праязджаюць тысячы тон атрутных рэчываў, якія ў крайнім выпадку могуць давесці да экалагічнай катастрофы. А калі хочам, каб Гайнаўку наведвалі турысты, якіх прыцягвае харамства Белавежскай пушчы, і каб нам самім жылося лепш і ў больш здаровых умовах, тады мусім дбаць пра экалогію свайго горада.

**Славамір Кулік**

# Што новага ў гміне?

— з гэтым пытаннем звярнуўся я да войта Бельскай гміны **Юрыя Ігнацюка.**

— Гміна ахоплівае 60 вёсак, — адказаў войт. — На працягу пяці гадоў пракладзена водаправоды ў 40 вёсках. Цяпер заводзім ваду ў 7 вёсак: ад Локніцы да Кожына. У гэтым годзе пачынаем каналізацыю Відава і, як добра пойдзе, Парцава. Памагае нам у гэтым у форме датацый Агенцтва мадэрнізацыі і рэструктурызацыі сельскай гаспадаркі. Падтрымоўваем таксама культурную дзейнасць на тэрыторыі гміны. Трэба толькі напісаць прашэнне да Гміннай управы, што патрэбныя грошы, бо салэцтва намерваецца правесці фэстын ці спартыўныя спаборніцтвы. Здараецца, што прыходзяць і просяць грошай, а я от так, са свае кішэні, не дам. Датацыю такую, напрыклад, атрымаў хор Бельскага дома культуры „Васілёчкі" — 2 мільёны старых злотаў.

Ад 1996 г. плануем разбудову школы ў Ягуштове — хочам дабудаваць спартыўную залу і крыты басейн. На тэрыторыі гміны працуе зараз 8 школ.

* * *

Будучы ў Бельску зайшоў я ў ГС, каб купіць толь (папу). На складзе сустрэў колішняга карэспандэнта „Нівы" **Васіля Асенніка.**

— Што сталася, — запытаў я, — што не пішаш у „Ніву"? Навокал, у Бельску, столькі цікавага дзеецца...

— Знаеш, маю многа працы; апрача гэтага ажаніўся і дайшлі новыя абавязкі. Дадаткова, абрабляю яшчэ зямлю па бацьках. Такім чынам пагоня за грашыма забірае час і не стае яго, каб займацца карэспандэнцыяй.

Пайшоў я да намесніка старшыні ГСу **Міхася Пугацэвіча.** Выпілі мы каву і ён расказаў мне:

— Калісь у нас працавала 250 асоб, а цяпер 92. Некаторыя адышлі на пенсію, а некаторыя паадыходзілі да лепш аплачваемай працы. Калектыў, што астаўся, кансалідаваўся, перасталі піць гарэлку. Пры камуне мелі мы 44 крамы, а цяпер асталося толькі 20 — у большых вёсках. Калісь было шэсць вясковых клубаў, а цяпер ніводнага. Не займаемся скупкай жывёлы. Вядзем млын, пякарню, камбікормавы завод (мяшальню пашаў) у Відаве, вялікія склады. На складзе маем 120 тон вугалю першага класа. Цяпер ніхто яго не купляе, але калі зіма будзе марозная, тады надумаюцца.

Калі быў беларускі фэст у Ягуштове, дафінансавалі мы мерапрыемства солтыса Заброцкага і далажылі 2 мільёны злотаў, каб запрасіць нашы калектывы. Такія фэсты вельмі патрэбны ў нашых вёсках цяпер, у цяжкі перыяд прыватызацыі і пераходу да капіталізму.

* * *

**Веслава Валосік,** намеснік загадчыка бельскага ЗАГСа сказала:

— У гэтым годзе нарадзілася ўжо 451 дзіця. Найчасцей хрысцяць імёнамі Матэуш, Лукаш, Магдалена і Анна. Памерла 266 асоб. Заручылася 80 пар маладых людзей 18—25 гадоў; старыя не жэняцца.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Пажарная каманда ў Бельску

Ад 1990 г. камендантам бельскіх пажарнікаў з'яўляецца Іван Барташук. Звярнуўся я да яго, каб расказаў, што здарылася ад пачатку 1995 года.

— Гасілі мы 118 пажараў і ўдзельнічалі ў 65 іншых здарэннях, дзе вымагаўся ратунак для людскога жыцця, — сказаў І. Барташук. — Былі гэта і падпаленыя стагі саломы і пажары лясоў, і дарожныя выпадкі. У нас 33 пажарнікі гатовыя да ратунку ад нясчасцяў на тэрыторыі між Нарваю і Бугам. Апрача іх маем яшчэ 12 адміністрацыйных працаўнікоў. Нашы пажарнікі паспяхова выступаюць у розных спаборніцтвах, напр. Яўген Селіванюк і Мар'ян Астроўскі сталі віцэ-чэмпіёнамі Польшчы ў бегу на 100 метраў з перашкодамі. Найлепшай добраахвотнай камандай на тэрыторыі Бельскай гміны з'яўляецца каманда з Ягуштова. Цяпер ствараецца дзяржаўная ратавальна-вогнетушыльная сістэма. Маем спецыялізаваную секцыю дарожнага ратавання з машынай на шасі „Фольксвагена", на якой устаноўлены гідраўлічныя прылады, нажніцы да металу, пілкі да бетону і сталі. Апошнім часам атрымалі пажарны аўтамабіль „Стар" з рэзервуарам ёмкасцю 5 000 літраў, які каштаваў два мільярды старых злотаў.

Пажадаць трэба і пажарнікам, і нам усім, каб менш было і пажараў, і няшчасцяў на дарогах.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Нечыстоты ў вадзе

Каля Дубіч-Царкоўных працякае вялікі раўчук, які свой пачатак бярэ ў крынічным Жарыўцы. Навокал гэтага рова раскінуліся лугі, сенажаці і пашы — наша дубіцкае багацце. На пачатку нашай вёскі стаіць шматкватэрны будынак, пастаўлены яшчэ пры камуне, нечыстоты з якога адводзяцца ў гэты менавіта раўчук. Даўней вада была ў ім чыстая, вадзілася ў ім розная вадзяная фауна, а сяляне ўлетку паілі тут сваё быдла; не кожнаму было па кішэні капаць на пашы сваю студню. Калі паступілі сюды спомненыя нечыстоты, вада стала смярдзючай і непрыдатнай, быдла пачало хварэць, а некалькі штук нават здохла. І вадзяны свет змяніўся: рэдка цяпер сустрэць тут вадзянога жука, а нават жабу; усё замірае. Раўчук з Жарыўца мае амаль 4 кіламетры даўжыні і ўпадае далей у Арлянку, якую таксама забруджвае сваёй мазепадобнай вадкасцю. А ці так павінна быць? Гэтаму забруджванню прыроды трэба палажыць канец і зрабіць так, каб нечыстоты не плылі ў раўчук, а ў септык. Ад чаго ж нашы мясцовыя радныя і працаўнікі гміны? Ці ў гміне не знойдзецца сродкаў на выкананне септыка і на вываз нечыстотаў з яго асенізатарамі?!

**Мікалай Панфілюк**

<u>У Нараўчанскай гміне</u>

## Лепшыя дарогі і водаправоды

Зараз у Нараўчанскай гміне заканчваюць пабудову асфальтаванай дарогі са Старога Ляўкова ў Лешукі. Раней — у мінулым годзе большменш у гэтую самую пару — на гэтай дарозе пабудавалі 1,5-кіламетровы адрэзак асфальту, выкарыстоўваючы так званую „скандынаўскую тэхналогію". Варта адзначыць, што такога роду асфальт у два разы таннейшы ад традыцыйнага.

Таксама сёлета, у пачатку жніўня, пачалі пабудову водаправоднай лініі са Старога Ляўкова ў Лешукі і ў Міхнаўку.

(яц)

<u>У Сідранскай гміне</u>

## Найлепшыя

У Сідранскай гміне сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць плошчу ў 13 тысяч гектараў. Амаль палова (48%) з іх гэта глебы V і VI класаў. 75% плошчы пасеваў займаюць збожжавыя культуры і каля 15% — бульба.

У гміне да найлепшых гаспадароў належаць: Казімір Галко і Альфрэд Шаставіцкі з Раманаўкі, Рышард Сухаволец з Хвашчэва, Мар'ян Глудзь з Рацэва, Казімір Мажэйка з Паганіцы, Януш Врублеўскі з Яцаўлян, Аляксандр Місоед з Шастакоў, Адам Кастэцкі з Макаўлян, Мар'ян Кастэцкі з Навінкі і Тадэуш Лісоўскі з Вулькі.

(яц)

# З дзённікаў С. Яновіча

**1992 - 08 - 30**

Ноч. Тэмпература памалу апускаецца да дваццаці градусаў з 34-х удзень і ўжо магчыма прынамсі чытаць. Палітычныя лектуры: Троцкі, Гэрлінг-Грудзінскі, Ярузэльскі, час. *Палітыка...* Няма ахвоты на літаратурныя, сорам прызнацца.

У Крынках даганіў быў мяне нейкі халтурнік з польскай секцыі *Free Europe*. Не люблю такіх. У іх няма ведаў *на прадмет*. А вось гэты пра Беларусь ці не ўпершыню пачуў. Давялося баналіць, бо што з такім зробіш, не выганяць жа яго з хаты.

Прыглядаюся да беларускай TV: месцамі цалкам добрая. Заўчора ў гарадзенскай студыі адказвалі на пытанні гледачоў Пазьняк, Хадыка, Маркевіч. Ну, Зянон вырас у маіх вачах! Гэты чалавек не разгубіцца. Адказваў як дзяржаўны муж: спакойна, лагічна, з пазіцыяў інтарэсаў Беларускай Дзяржавы.

**1992 - 09 - 01**

*Gazeta Wyborcza* надрукавала як дадатак палітычную мапу сённяшняй Еўропы. Ці не першую такую кімсьці ўвогуле, на якой Беларусь відаць як асобную дзяржаву?..

Вылез я пакуль што з безграшовіцы. Надоўга?

**1992 - 09 - 03**

Заўтра пачну пяцьдзесят сёмы год свайго жыцця. Няблага як на маё, усё хілае, здароўе.

Сёння няма ў мяне ўжо аніякіх сумненняў у тым, што добра зрабіў, выводзячы сваю асобу з усякіх кіраўнічых структураў. Хлопцы, аднак, увіхаюцца на ўсіх тых пасадах. Ёсць у іх запал, укручваюцца ў гэты капіталізм; я, звычайна, не даў бы ўжо рады (яшчэ і з дыябетам). *Kurier Podlaski* (учора) і *Kurier Poranny* змясцілі інтэрв'ю Геніка Мірановіча як галоўнага рэдактара *Нівы*. Ураўнаважаныя выказванні, далёка нацэленыя. Прыход Геніка праўдападобна адкрые новую старонку ў далейшай гісторыі часопіса, дзеля чаго напэўна не хапіла б цяпер мне энергіі, ані тым болей Максу, у якога сама прырода характару не ўзгадавала у ім хоць падабенства на грамадскага дзеяча.

**1992 - 09 - 20**

Тыдзень назад Ян Чыквін святкаваў сваё 35-годдзе літаратурнай творчасці. Генік прапанаваў яму сустрэчу за кавай у *Ніве*, але юбіляр заўпарціўся ладзіць яе ва універсітэцкім будынку (з разлікам на большы гонар?). Публіка сабралася службовая: супрацоўнікі рэдакцыі, пару ваяводскіхураднікаў, тутэйшы прэзас ZLP... Не быў гэта фэст творчага асяроддзя, якое пра нішто і не ведала. Ясь чакаў нейкай афіцыйнай узнагароды. Замест яе прыйшоў пабыць віцэ-ваявода Усакевіч. Усё ж было прыкра, неяк прымушана... Не адчувалася, каб хто меў уяўленне пра творчасць г. аўтара.

Праз гадзіну *з гакам* разышліся.

**1992 - 10 - 03**

(...) я з Чыквіным рашылі болей не вязацца з *саветамі* (...) гэтыя людзі адтуль у сваёй пераважнасці нейкія тупыя, разявістыя, незарыентаваныя ў свеце культуры. Ну і хамаватыя, без умення слухаць ды палемізаваць; запальваюцца і крычаць. Недачытаныя. Такіх еўрапейцаў, як Мальдзіс, — адзінкі ў іх. (...)

**1992 - 10 - 16**

У *Ніве* вельмі неспадзяваны ды асаблівы пратэст Джыма Дынглі супроць маёй згадкі ў надрукаваным (24.V.) фрагменце *Дзённікаў...* пра скупасць айца Алеся *). (...) Дынглі (...) павінен быў падумаць, што я не раз і шмат пісаў пра Скарынінку не толькі ў *Ніве*, менавіта, у тыя часы, калі яшчэ аніхто з яе гасцей ад нас не наважваўся прызнацца, хаця б у прыватнай гутарцы, што таксама пабываў там! Не кажучы ўжо пра нацыянальна-падпольныя аперацыі... (...)

Іначай не назавеш гэтага як расчараваннем, жалем. Мы тут траціліся ўсім: жыццёвым лёсам, здароўем, спакоем цэлай радзіны. А яны — што ставілі на адну карту? (...)

**1992 - 11 - 08**

(...) На цэлы вечар засеў у мяне Лёнік. Гаварылі мы пра смутныя бакі часу, які надыходзіць. Нашы людзі не падрыхтаваныя самастойна жыць; увыклі, што ўлада нешта давала ім, забяспечвала. (...)

**1992 - 11 - 15**

*Ніва*: *Меншасць у дзяржаве — большасць у гміне.* Сутнасць тэзы прапанаванай палітычнай стратэгіі.

Над кн. Туронка *Wacław Iwanowski...* Сенсацыйна чытаецца! Успамінаецца: не адно ён ужо гаварыў і пісаў, але тады неяк забывалася.

Заўчора — на БАСаўскіх атрасінах (буд. NOT). Калісьці было цікавей і тлумней. Наш дзікі капіталізм бачна прыпыніў паток сялянскіх студэнтаў ды іхнюю грашавітасць (цэны!).

Лёнік павалок мяне туды. У яго ўжо настальгія па мінулым, старэе хлопец. Прыйшлі: Латышонак, Каліна, Вапа з жонкаю, Ляшчынскі, Пякарская... Пастаўлена ім стол з талеркамі *канапак* (рыхтык... прэзідыум!). А ў зале віравала ў канвульсійных танцах ужо не іх пакаленне. — Вапа: працуючы настаўнікам гісторыі ў родным Гайнаўскім ліцэі з бел. моваю мае праблемы, каб выклікаць у вучняў патрэбу ў роднамоўі ды цікавасць да айчыннае гісторыі. — Лёнік: дзікі капіталізм робіць беларусаў бядней бяднейшых, што і разганяе іх па хлябнейшых польскіх дарогах.

Сенсацыя: у праваслаўна-беларускім да апошняе хаты Наваберазове фундуюць помнік Пілсудскаму (Мартынюк — бальшавік даў пляц) і прысвойваюць імя маршалка мясцовай школе! Халоп мусіць служыць пану, усё роўна якому. (...)

*(Працяг будзе)*

*) *Калі б Джым Дынглі быў беларус, я так не здзівіўся б яговым пратэстам: у нас дэмакратыя і талерантнасць нават і пад нагамі не валяліся, таму беларус беларуса можа толькі хваліць аж да сахарыннай саладосці або — маўчаць!*

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

## Між молатам і кавадлам

Партызаны вельмі часта шантажом і правакацыяй выкарыстоўвалі зусім нявінных людзей да сваёй падпольнай дзейнасці. А рабілі гэта дзеля сваёй выгады, каб самім не пацярпець у ходзе тэрарыстычных акцый, выстаўляючы на небяспеку нявопытных, але запалоханых вяскоўцаў, якія ў той час ад нікога не мелі ніякага ратунку. Сведчаннем таму хай будзе вось такі красамоўны прыклад. Да жыхара вёскі Слабада Паўла Васілеўскага наведаліся партызаны з атрада імя Камсамола, ды заявілі: „За тое, што твой брат Кастусь служыць у „Форсткаманда" і носіць нямецкую ўніформу, партызанскі суд прыгаварыў усю вашу сям'ю да расстрэлу". Прытым яшчэ дадалі, што Паўлу даецца магчымасць апраўдаць сябе і сям'ю пры адной умове: ён падложыць міну пад рэйкі. Павел Васілеўскі вымушаны быў згадзіцца і 19 красавіка 1944 г., у дзень імянін Адольфа, узарваў чыгуначнае палатно ў Крывой каля вёскі Задвор'е. Знішчана тады было 15 вагонаў з войскам і баявой тэхнікай.

У падобны спосаб да падрыўной дзейнасці прымушаны быў жыхар Задвор'я па прозвішчу Саковіч. Але ён не меў шчасця, бо немцы злавілі яго падчас падрыхтоўкі да выканання дадзенага партызанамі задання і адразу на месцы, неадкладна расстралялі.

Усе дзеянні на некарысць акупантаў партызанская камандзіры прыпісвалі сабе і атрымоўвалі ўзнагароды, хаця ў сапраўднасці займаліся тэрорам і рабаваннем цывільнага насельніцтва, не зважаючы на цяжкі лёс сялян і небяспеку, якая пагражала мірнаму жыхарству пасля непрадуманых тэрарыстычных актаў. Бывала, што паасобныя атрады аперыравалі ў гэтых самых вёсках і наносілі людзям падвойную шкоду. Напрыклад, мяне да падрыўной работы выкарыстоўвалі партызаны з атрада імя Суворава. Вясною 1944 года хату маіх бацькоў наведалі падпольшчыкі з атрада імя Камсамола. Візіт пачаўся з лаянкі, падчас якой бацьку абзывалі „кулаком" і „ворагам народа". Потым сталі патрабаваць аддаць ім зброю і золата. Калі бацькі сталі тлумачыць, што зброю, якую я перахоўваў, аддалі партызанам-сувораўцам, а золата ў іх ніколі не было, няпрошаныя госці толькі яшчэ больш раз'ятрыліся. Вынік гэтага нашэсця быў такі, што забралі нам двое коней з падводаю, карову і два вяпрукі, а таксама ўзялі вопратку і бялізну. Пасля некалькіх дзён сустрэў я знаёмага камандзіра коннай разведкі атрада імя Суворава лейтэнанта Васіля Зайцава і расказаў яму жудасную гісторыю, якая здарылася нашай сям'і з партызанамі-камсамольцамі. Лейтэнант выслухаў мой расказ, пацісну плячамі і заявіў, што нічога зрабіць не можа. Аднак дапамог ён нам, бо аддаў нам свайго каня.

Партызанска-бандыцкія групоўкі вельмі часта займаліся грабяжом і перапродажам нарабаванага дабра. Напрыклад, рэквізаваныя ў сялян коні, каровы і іншая жывёла перапраўляліся цераз старую польска-савецкую мяжу і там у былых калгасах прадаваліся за гарэлку. З прыходам немцаў усе калгасы былі распушчаны, а зямлю калгаснікі падзялілі між сабою. Аднак жывёлы ў іх было малавата. Такім чынам партызаны дапамагалі колішнім калгаснікам папоўніць прыватны ўжо статак.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# БОЧКА З ПОРАХАМ

Рэха югаслаўскай вайны штораз часцей разносіцца па цэлым свеце, а асабліва па Еўропе, дзе нарастае эмацыянальнае заангажаванне паасобных народаў у гэты канфлікт. Разам з агрэсіяй харватаў на заселеную сербамі Крайну, вайна набыла характар рэлігійнага каталіцка-праваслаўнага канфлікту. Хлуслівыя каментары ў польскіх сродках масавай інфармацыі паказваюць, што Польшча выразна акрэсліла свае пазіцыі на баку каталіцкай Харватыі. Калі сербы выгналі тысячу мусульман ці харватаў, такі факт быў названы варшаўскімі каментатарамі найвышэйшым злачынствам супроць чалавецтва. Сербы, дарэчы, ужо пару гадоў прадстаўляюцца як сімвал зла, проста пасланнікі пекла. Калі аднак харваты выгналі дзвесце тысяч сербаў, тыя ж самыя людзі, каментуючы падзеі ў былой Югаславіі, з нескрываным задавальненнем захапляліся бліскучай перамогай аднаверцаў. Не звярталі яны нават увагі на тое, што харвацкія самалёты атакавалі калоны сербскіх бежанцаў з Крайны, ні на гвалты і катаванні жанчын і дзяцей, якія не паспелі ўцячы перад агрэсарамі.

Але гэта менавіта і ёсць логіка мовы, характэрная для людзей эмацыянальна заангажаваных у канфлікт. Няма прытым ніякай этыкі журналісцкай працы, ні звычайнай чалавечай сумленнасці.

Тым часам югаслаўская вайна пачынае штораз больш пагражаць стабільнасці Еўропы. Вяртаюцца як бы і старыя падзелы з пачатку нашага стагоддзя. Аказалася цяпер, што немцы і амерыканцы шмат гадоў рыхтавалі харвацкую армію да вайны з сербамі — саюзнікамі Расіі. Англічане і французы не мелі прычын захапляцца перамогай харватаў у Крайне. Пашырэнне нямецкіх уплываў на Балканах не супадае з іх інтарэсамі. Расейскі парламент, адкідаючы аднабакова аанаўскія пастановы адносна санкцый супраць Сербіі, афіцыйна заявіў свету, што Расія не будзе далей спакойна прыглядацца як слабее найвярнейшы саюзнік. За такім ходам палітыкі выказваецца большасць тамашняга грамадства.

Нягледзячы на сучасныя пакты і дагаворы, югаслаўскі канфлікт вярнуў гістарычную памяць для большасці народаў нашага кантынента. Сімпатыі немцаў і італьянцаў накіраваліся ў бок харватаў, разам з якімі ваявалі яны падчас другой сусветнай вайны супраць сербаў. З каментарыяў англійскай і французскай прэсы выразна відаць, што не захапляе іх перамога харватаў над сербамі з Крайны. Чым даўжэй трывае вайна ў былой Югаславіі, тым больш выразна вяртаюцца старыя палітычныя падзелы ў Еўропе. З рэлігійных прычын палякі паставілі свае сімпатыі на баку харватаў, грэкі — на баку сербаў. Але гэта толькі абазначае, што старыя рэлігійныя падзелы вельмі трывалыя і выклікаюць усё яшчэ вялікія эмоцыі. Здавалася б ўсяго чымсьці ірацыянальным варожасць паміж праваслаўнымі і каталікамі — усё ж хрысціянамі. Кожнае хрысціянскае веравызнанне наказвае любіць другога чалавека як сябе самога, забараняе нянавісць, загадвае веруючым выбачаць крыўды нават найбольшым ворагам. Гісторыя Еўропы паказвае, што жывём на язычаскім кантыненце. Справа Супрасльскага манастыра ёсць доказам, як браты хрысціяне шануюць сімвалы іншых хрысціян. Можна сабе ўявіць, як гэтая пашана выглядала ў Крайне ці Заходняй Славоніі, дзе ўварваліся быццам бы хрышчаныя харваты. Ніводная царква не была патрактаваная як дом Божы, а толькі як месца дэманстрацыі нянавісці да праваслаўных. Нішто не паказвае, што нейкая міжнацыянальная канферэнцыя паспрыяе заканчэнню гэтай балканскай вайны. Зашмат там нянавісці, зашмат крыві пралілося і ніхто з тамашніх хрысціян не збіраецца нікому выбачаць свае крыўды. Патрачаны быў час, калі існавалі адпаведныя ўмовы для дыскусіі і спакойнага асуджэння ўсялякіх крыўдаў, нанесеных падчас II сусветнай вайны. Таму апрача ўжо існуючай праваслаўна-мусульманскай вайны, пачалася на тэрыторыі былой Югаславіі каталіцка-праваслаўная. Гэтая апошняя падзея парушыла раптам палітыкаў і грамадства цэлай Еўропы. Балканы ўжо раз былі дэтанатарам еўрапейскай бочкі з порахам. На шчасце для Еўропы цяпер гэтая бочка абмежаваная толькі да Югаславіі. Напэўна за Кнін, Сараева ці Баня-Луку не збіраюцца змагацца ні расейцы з немцамі, ні аўстрыйцы з румынамі, але шмат палітыкаў, генералаў, банкіраў і мафіёзі зацікаўленых у тым, каб вайна ў Югаславіі трывала як найдаўжэй. За іх інтарэсы доўга яшчэ плаціць будуць югаслаўскія народы.

**Яўген Міраповіч**

# У ПОШУКАХ ЗАЛАТОЙ РЫБКІ

Летняя гарачыня заўсёды выганяе людзей з гарадоў. У пятніцу пасля абеду аўтамашыны на дарогах зрэдку едуць у напрамку Беластока. Наадварот, з горада выліваецца хваля мяшчанства ў пошуках прынамсі мокрай вады. Кожная лужына становіцца быццам бы аазісам на пустыні. Напрыклад, на пляжы ў Беластоку над Дайлідскім залівам амаль кожную нядзелю раніцай ужо не было месца на зямлі, дзе свабодна можна было б пакласці плед. Дзе-нідзе не прыкрытая пледамі прастора закідана была ўсялякімі пластмасавымі бутлямі, паперкамі, недакуркамі ды іншым шматкаляровым смеццем. Тысячы разлянівіўшыхся мяшчан ляжалі на зямлі і ўсё нешта жавалі, курылі папяросы, а некаторыя прыводзілі сябе ў стан лепшага самаадчування вырабамі з беластоцкай піваварні ды мясцовага спіртзавода. У невырагодна мутнай і бруднай вадзе плюхаліся сотні дзяцей і пару дзесяткаў сабак. Радасць наймалодшых ад кантакту з гэтай мутнай вадой праяўлялася аглушальным шчэбетам, смехам і крыкам. Толькі найпрыгажэйшыя дзяўчаты неяк не маглі знайсці сабе месца. Для іх была гэта непаўторная нагода паказаць сваю прыгажосць, якой не паскупіла ім натура. І сапраўды гэтыя Ёлькі, Элькі, Эдыткі стваралі зусім іншае эстэтычнае ўражанне, чым усё апошняе, што ляжала на зямлі.

Пакуль, аднак, у Дайлідах летняю парою не было вялікіх шанцаў, каб улезці ў тую лужыну, званую залівам, і не зачапіцца за чыюсьці пукатасць, трэба было шукаць іншага месца. Выбару вялікага не было, і вырашыў тады я паехаць у Нарву, дзе побач мястэчка плыве немалая рака Нарва. У параўнанні з Дайлідамі прынарвянская ваколіца здавалася быць раем на зямлі. Праўда, вада не была крыштальная, але ў адрозненне ад беластоцкага пляжа можна было пакупацца без адчування агіды. Плато са схіламі, якія цягнуцца ў напрамку вёскі Анцуты, з'яўляюцца адным з нешматлікіх абшараў, дзе яшчэ не адбыўся гвалт чалавека над прыродай. На раку Нарву яшчэ не паспелі накінуцца вандалы з меліярацыйнай сухопалкі і не залілі яе таксама прамысловай гразззю, бо няма тут прамысловасці. Над берагамі ракі няма нават статкаў кароў, так характэрных для летняга краявіду ў гэтай ваколіцы яшчэ пару гадоў таму назад. Мясцовыя пенсіянеры найчасцей трымаюць адну кароўку, якая часам можа шпацыраваць сярэдзінай ракі. Ідучы сцяжынкай, якая ўецца ўздоўж рэчышча Нарвы, на адрэзку амаль трох кіламетраў у спякотны дзень можна было спаткаць над ракой толькі некалькі чалавек — закаханую пару, якая схавалася на бязлюдную прастору, каб уключыцца ў рытм жыцця прыроды, рыбака з вудачкай і запасам піва на цэлы тыдзень, пару хлапчукоў, якія з энтузіязмам скакалі з высокага берага ў ваду. Што за кантраст з беластоцкім людным і брудным залівам. Можна было адпачываць, купацца, спяваць, крычаць, захапляцца пейзажам без страху, што камусьці будзеш перашкаджаць, ці табе нехта наступіць на вуха.

Прыглядаючыся гэтай цудоўнай ваколіцы падумалася мне: чаму ніхто да гэтай пары не захацеў выкарыстаць тамашнія козыры прыроды? Чаму ніхто не стварыў беластоцкім мяшчанам адпаведныя ўмовы выдаваць грошы на сваёй зямлі? Найбольш эфектыўная галіна гаспадаркі ў сучасным свеце — турыстыка — тут амаль не існуе. У Італіі ці Францыі ў двухтысячным мястэчку найчасцей ёсць 3—4 маленькія танныя гасцініцы, столькі ж сама міні-бараў, кавярняў. Невялікі гэта бізнес, але жыць можна, — гавораць іх уласнікі. Наш сацыялістычны чалавек прымае больш просты метад вырашэння сваіх сацыяльных праблем. Калі ён беспрацоўны, стукае ў дзверы сацыяльнай дапамогі. Навошта яму ўласны бар, крама, рэстаран і звязаныя з гэтым клопаты.

Калі тады ў нядзелю вечарам стомлены турыст захоча ў Нарве павячэраць і пераначаваць, каб на другі дзень прадаўжаць агляд ваколіцы, пасля пару гадзін пошукаў вымушаны вяртацца над рэчку і прабаваць лавіць залатую рыбку, а далей — прасіць яе дапамогі. Такая менавіта сітуацыя выступае ў большасці нашых мястэчак. Не ў кожным ёсць нават нейкая лужына, дзе магла б вадзіцца залатая рыбка. Адтуль астаецца ўжо толькі ўцякаць дахаты або „на Мазуры".

**Васіль Кургановіч**

# НОВЫЯ ЗАПАВЕДНІКІ

27 чэрвеня г.г. міністр аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лясніцтва выдаў распараджэнне аб утварэнні на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства дзесяці новых запаведнікаў прыроды. Распараджэнне ўвайшло ў сілу два тыдні пазней. Такім чынам ахоўваемая паверхня ў ваяводстве павялічылася на 1 346,6 га. Дзевяць запаведнікаў змяшчаецца ў раёне Белавежскай пушчы, адзін — у астатках даўняй Бельскай пушчы. А вось гэтыя аб'екты:

**„Berezowo"** — (паверхня 115,26 га, гміна Гайнаўка). Ахоўвае натуральныя становішчы 28 відаў матылёў, з якіх шмат вельмі рэдкія не толькі ў маштабе Белавежскай пушчы, але і ва ўсёй Польшчы.

**„Dolina Waliczówki"** — (пав. 44,75 га, гм. Нараўка). Ахоўвае нелясныя асацыяцыі асаковай расліннасці, з рэдкім тут відам — ятрышнікам шыракалістым.

**„Gnilec"** — (пав. 37,21 га, гм. Нараўка). Ахоўвае натуральныя асацыяцыі нелеснай расліннасці, у гэтым рэдкую ў Польшчы і адзіную ў Белавежскай пушчы асацыяцыю асакі *Вихбаита*.

**„Kozłowe Borki"** — (пав. 246,97 га, гм. Белавежа). Ахоўвае ельнікі на тарфяніку, рэдкія ў Белавежскай пушчы. Тут таксама дзікія лугі над ракой Пераралакай, на якія ізноў уваходзіць лес.

**„Olszanka Myśliszcze"** — (пав. 278,32 га, гм. Белавежа). Ахоўвае натуральныя становішчы 48 відаў матылёў. Шмат з іх рэдкія і вельмі рэдкія ў Польшчы.

**„Podcerkwa"** — (пав. 228,12 га, гм. Белавежа). Ахоўвае натуральныя становішчы 14 рэдкіх і надта рэдкіх відаў матылёў.

**„Podolany"** — (пав. 15,10 га, гм. Белавежа). Ахоўвае натуральны фрагмент пушчы, які вылучаецца буйнымі, шматвіднымі лясамі, з асабліва вялікай колькасцю магутных помнікавых дубоў. Улюбёнае месца паэта Барыса Руско. Тут у яго ёсць „свой" дуб, пад якім напісаў не адзін верш.

**„Przewłoka"** — (пав. 78,38 га, гм. Гайнаўка). Ахоўвае натуральныя становішчы 44 відаў матылёў, з якіх многія вельмі рэдкія ва ўсёй Польшчы.

**„Siemianówka"** — (пав. 224,54 га, гм. Нараўка). Ахоўвае цэлы комплекс багнавых лясоў, распаложаных па-суседску вадасховішча „Семяноўка". Цікава, ці тут збірала нейкія ягады і зёлкі наша Аўрора?

**„Czechy Orlańskie"** — (пав. 77,95 га, гм. Дубічы-Царкоўныя). Ахоўвае кампактны фрагмент хваёвых лясоў. Тут таксама цікава прабягалі спантанныя перамены расліннасці на пакінутых ворных грунтах. Аб'ект вылучаецца вялікімі навуковымі і дыдактычнымі вартасцямі.

**Пётр Байко**

# У ЕДНАСЦІ ШАНЦ ПАРАТУНКУ

*Працяг са стар. 1*

— свядомых беларусаў, тутэйшых, праваслаўных, праваслаўных палякаў, украінцаў, русінаў і іншых. Аднаго мы племя, веры, традыцыі, адна ў нас этнічная тэрыторыя, адна гісторыя.

Яшчэ і сёння на аснове моўных адрозненняў даецца акрэсліць, з якой хто вёскі, прынамсі на роднай мне Бельшчыне. Але ці ж гэта прычына для разладу?

Няма таксама асаблівага сэнсу нашым элітам дзяліцца паводле партыйных прынцыпаў — на сацыял-дэмакратаў, лібералаў, кансерватараў, зялёных ды іншых. Гэты падзел робіцца малаважным, калі цвяроза глянуць на ўсе нацыянальныя пагрозы.

Найшырэйшая прастора для кансалідацыі ў вядомых рэаліях — гэта праваслаўе. У ім асаблівая пашана належыць кірыліцы. Кірыліца — гэта нешта больш як толькі алфавіт. Гэта сімвал нашай гісторыі, духоўнай еднасці.

Паланізацыя (латынізацыя) Царквы не гарантуе захавання праваслаўнага веравызнання. Самай вялікай апорай і аркай для Царквы з'яўляецца тут менавіта беларуская мова. Забыць матчыну мову — гэта крок да знікнення.

Трэба шмат адвагі ў сваім „я", мужнасці ў адносінах да іншых. Трэба яшчэ баяцца неразумнасці і блізарукасці.

У думках-намерах і творчым дзеянні пачэснае месца няхай займае ўражлівасць. Мысленне без уражлівасці, вядома ж, вядзе да падняволення і поўнай асіміляцыі.

**Юры Баена**

# Пагроза ці легенда?

*Працяг са стар. 1*

яшчэ выхваляюць польскі ўрад за пенсіі. Паўтараюцца пачутыя раней аргументы.

На другім баку рэчкі — гміна Нарва. Аднак целушкоўскія дачнікі і тут не абыякавыя.

— Навядуць з сабой сабак і купаюць у рэчцы. Хто гэта бачыў так ваду гідзіць? Не дарма ўся рыба звялася, — абураюцца сяляне.

Пра касцёл таксама чулі.

— *Тэлушкі* на другім баку ракі і нам няма што да іх мяшацца, — дыпламатычна пазбягаюць тэмы. — У нас таксама *адзін* пляц купіў. Казаў, што ён „рускі", але хто там яго ведае.

— А як вогнішчы па начах паліць пачне, то і вёску падпаліць, — заўважыў нехта.

У К. не любяць *вчасовічаў*.

— Гуркі з гародаў вырываюць, або вішні з голлямі ломяць. Але гэта пераважна засранцы ўсякія, што з палаткамі прыязджаюць, — удакладняюць сяляне.

— Два гады таму то і царкву нам абакралі, а віноўніка і па сёння не найшлі, — жаляцца іншыя.

У К. чысціня і парадак. На панадворках самаходы з беластоцкімі табліцамі і палаткі.

— Мы то сваіх гаспадарак чужым прадаваць не будзем. Як вайна прыйдзе, то дзеці з гарадоў паўцякаюць.

— Я чула, што ў Трасцянцы ўжо шмат старых паварочалася. Бо ведаеце, у блёку цесна і цяжка з маладымі зжывацца, — гавораць у К.

На чыстым бруку ў К. расце ўжо трава. З панадворкаў чуваць польскамоўных унукаў і гурт „Рэаль".



*Дачы каля Целушок.*

На другім баку рэчкі, сярод стройных лёгкіх дач, лянівая, сонная атмасфера. Сям-там грыміць музыка з гукаўзмацняльнікаў. Многія загараюць на сонцы.

— Czasami świadczymy sobie wzajemne usługi, — паясняе з-за жалезнага, забяспечанага замком, плота, напатканы дачнік.

— Ci ludzie stąd są wspaniali, otwarci, prości, serdeczni, — дадае ён.

Калі пытаюся, ці чулі тут пра касцёл, мой субяседнік смяецца.

— To taka legenda! — махае рукой і раіць распытаць у Целушках. На намёкі пра сувязі легенды з Ільёй Клімовічам мой інфарматар сумняваецца. Сам ён вядомы акцёр і іграў ў п'есе „Прарок Ільля". *Гісторыю* гэтую добра ведае. Пра смешнасць праблемы ўпэўнены таксама і дваццацігадовы на выгляд сын акцёра.

У Целушках, аднак, не смяюцца. Прысутнасць дачнікаў лічаць як спаўненне прарочання Сцяпана Харытанюка.

— Мой бацька меў такую кніжку і паводле яе гадаў людзям. Гаварыў, што на белым узгорку (або стоку) будзе горад. Там хутка касцёл пабудуюць. Гаварыў людзям, што час такі настане, калі будуць на печы сядзець і свет бачыць. Што вёскі павуцінне пакрые! Што хлопца ад дзеўкі не адрозніш! Што жыдоў з хат уласных праганяць. Людзі смяяліся з бацькі. Адны жыды ажно тыдзень часу тата гасцілі за праўду, якую ім прадказаў. Хто б у нас шэсцьдзесят гадоў таму паверыў, што будзе радыё, тэлевізар, электрычнасць, што хлопцы будуць гадаваць доўгія косы, а дзяўчаты ў нагавіцах хадзіць. Але як тое збылося, то і пра касцёл пэўна збудзецца, — разважаў пажылы пенсіянер, сын мясцовага прарока.

— Але мы супраць гэтых дачнікаў нічога не маем. Няважна хто яны, абы людзі былі добрыя, — папаўняе свае расказы дзядзька.

Не надта камфортна па такіх легендах адчуваюць сябе і дачнікі. Пра гэта сведчыць не толькі адборны састаў асаднікаў. Побач лекараў і інжынераў жывуць акцёры і паліцыянты. Усе панадворкі салідна агароджаны.

— Mimo to zdarzają się drobne kradzieże, — прызнаецца мой субяседнік, акцёр.

— A plotki i legendy krążą, bo Ciełuszek w okolicy nie lubią. To są stare lokalne zacietrzewienia.

— Цяпер Целушкі маюць сваю кару, — чую наступную легенду ў суседняй вёсцы.

— Перад вайной многія паверылі ў *бога* з Грыбава. Царкву для яго будавацца узяліся. Гэты прарок, што асаднікаў прадвяшчаў, сам у секце служыў. Не дзіва, што і наехала такіх, што ўсё пра гэтых ільіннікаў і іхняга *бога* пытаюцца, — тлумачаць вяскоўцы.

— А як нас элегантна „зблядзілі" ў сваіх фільмах, — смяецца малады мужчына і супярэчыць старэйшым. *Я то ў тэ байкі нэ віэру!*

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## На канікулах у Трасцянцы

У час летніх канікул ажываюць старыя, самотныя домікі бабуль. Вёска напаўнясцца дзіцячым гоманам і смехам. Многія дзеці вельмі любяць сваіх бабуль і дзядоў. Часамі здараецца, што просяць іх навучыць іх „нсзразумелай", „іншай" мовы.

У Трасцянцы зараз процьма дзяцей. На многіх панадворках бегае пяцьшэсць дзетак. Амаль усе яны прыехалі з Беластока.

Дванаццацігадовая Аня і на год малодшая Агнешка Галамбеўскія разам са сваімі сябрамі, Давідам і Марцінам, выехалі на веласіпедную экскурсію. Таму і пазнаёміліся з „Зоркай" на дарозе з Трасцянкі ў Пухлы. Дзяўчынкі ў бабы Веры і дзеда Міколы на канікулах. Ходзяць у Пачатковую школу н-р 48 у Беластоку. Вёска Трасцянка ім вельмі падабаецца.

— Я вельмі люблю слухаць, калі ў вёсцы гавораць па-беларуску. І вельмі смешна, калі да нас звяртаюцца папольску, бо думаюць што мы нічога не разумеем, — гавораць дзяўчынкі.

Давід Мікалаюк таксама гасцюе ў бабкі Веры. Хлопчыку дзесяць гадоў. Ходзіць ён у чацвёрты клас Пачатковай школы н-р 28 у Беластоку.

Марцін Внушынскі расказвае пра бабку Маню і дзеда Сцяпана.

Усім дзецям вёска вельмі падабаецца.

— Няма ў ёй дыму, многа катоў, буслоў, многа кветак і лясоў, — цешацца дзеці.

Усе мае новыя сябры з сардэчнасцю прывіталі нашу „Зорку".

— Ой, як кепска, што ў нас, у Беластоку, няма беларускай мовы, — наракалі дзеці. Усе яны хацелі б стаць чытачамі „Зоркі".

— А можа бацькі нас навучаць? — меркавала Аня і ўсе яе сябры задумаліся.

**Г. Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Агнешка, Аня, Давід і Марцін адпачываюць у вёсцы.*

## У лекара

Ці любіце наведваць паліклініку? Напэўна не ўсе! Камілька Цітка з Гарадка разам з бацькамі пайшла да лекара. Чарга была невыносна доўгая. Прыйшлося чакаць аж тры гадзіны. А калі ўжо ўвайшлі ў кабінет лекара, дзяўчынка кінулася да дзвярэй.

Але там стаяў яе тата і на калідор не было свабоднага пераходу. Камілька, быццам мышка, прысела ў куточку і пачала плакаць.

— А што гэта за плакса? — спытаў малечу лекар і пагладзіў яе па доўгіх цёмных валасах.

І тут Камілька ўміг пераканалася, што лекар вельмі сімпатычны дзядзька. Неўзабаве і гаварыць пачалі пра лялькі і цацкі дзяўчынкі. Калі Камілька мела выходзіць з кабінета, прыстала.

— Вельмі мне сорамна, што я так плакала і ўсіх хвалявала. Прашу ў вас прабачэння.

І вялікія вочкі дзяўчынкі зноў заблішчэлі ад радасці. Мама Камількі таксама вельмі ўзрадавалася і, выйшаўшы з паліклінікі, купіла дачушцы новую ляльку.

— А калі зноў пойдзем да лекара? — пытала па дарозе шасцігадовая Камілька.

**Г.К.**



*Камілька Цітка з Гарадка.*

## Вершы Віктара Шведа

### Ездзіць як маланка

Хваліцца на панадворку Янка:
— Мая мама ездзіць як маланка.
— Гэта значыць, — запытала Людка, —
Яна ездзіць незвычайна хутка?

— Не, — тут запярэчыў Янка
з гневам, —
Яна часта пападае ў дрэвы.
Страху аніякага не мае.
Шчасце, што яшчэ яна жывая.

### Толькі піша

Мама чуе ад Андрэя:
— Я пісаць ужо умею!
А матуля ведаць хоча
Што там папісаў сыночак?

— Прачытай жа мне, Андрэйка,
Калі напісаў тэкст нейкі.
Тут сыночак зажурыўся:
— Шчэ чытаць не навучыўся.

### Намачыць забыўся мыла

— Даражэнькі мой Макар,
Памый добра рукі, твар.
Ужо бачу, ты паскуда,
Паміруешся раптам з брудам.

Тут Макарка засмуціўся:
— Як пазнала, што не мыўся?
Маю тайну як адкрыла?
— Намачыць забыўся мыла!

## Музычныя сем'і

Ад вякоў вядомы сем'і, у якіх усе займаліся музыкай. Напрыклад, сям'я нямецкага кампазітара Іагана Себасцьяна Баха. У наваколлі нават гаварылі, што музыкант інакш называецца „бах". Сям'я Бахаў арганізавала славутыя „сямейныя" канцэрты.

І зараз таксама сустракаем падобныя сем'і. Многія з вас чулі пра амерыканскую сям'ю Джэксанаў. Спявае там не толькі Майкл Джэксан, але і яго сёстры, браты. Раней усе выступалі як сямейны гурт Джэксанаў.

На Беласточчыне таксама сустракаем такія з'явы. Чытачы „Зоркі" мелі нагоду пазнаёміцца з Юркам Якімюком, вучнем Пачатковай школы ў Чыжах. Апрача Юркі ў сям'і ўсе спяваюць і выступаюць на беларускай сцэне.

**З-ка**

### З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## Ці была на Беларусі мангола-татарская няволя?

*(заканчэнне; пачатак у 33 н-ры)*

Беларусь не была паняволеная мангола-татарамі. Захаваліся паданні пра пераможныя бітвы нашых продкаў з імі пад Койданавам у 1249 годзе, каля Магільны, над Акунёўкаю, але гэта хутчэй за ўсё легендарныя звесткі, якія трапілі на старонкі летапісаў значна пазней, у XVI стагоддзі. Беларусы змагаліся з татара-мангольскімі набегамі ў 1259, 1275, 1277 гадах. Аднак гэта былі менавіта наезды, уварванні. Беларусь ніколі не падпарадкоўвалася Залатой Ардзе, ніколі не ведала азіяцкай няволі. Тэрміны „мангола-татарскае нашэсце", „мангола-татарскае іга", „дамангольскі перыяд" і г.д. у дачыненні да беларускай гісторы надуманыя. Тут у адрозненне, скажам, ад рускіх земляў, якія 240 гадоў уваходзілі ў склад Залатой Арды, натуральны працэс гістарычнага развіцця не парушаўся, дзякуючы чаму, напрыклад, яшчэ стагоддзямі жыло веча — інстытут сярэднявечнай дэмакратыі, тым часам як у Маскоўскай дзяржаве ўсталявалася азіяцкая дэспатыя.

У беларускай гісторы ёсць слаўная старонка, якая да апошняга часу замоўчвалася. Задоўга да хрэстаматыйна вядомай Куліковскай бітвы, яшчэ ў 1362 годзе, войска Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Альгерда разбіла каля Сініх Водаў войскі трох татарскіх ханаў. У выніку ўкраінскія землі былі вызваленыя ад мангола-татарскай няволі.

*(Паводле „100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі")*

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

У галерэі сучаснага мастацтва наведвальнік захапляецца карцінай, якая прадстаўляе прастору і кнопку ўсярэдзіне.

— Чаму ў інфарматары нічога не пішацца пра гэты вобраз? — пытаецца ён у працаўніка галерэі.

— Бо гэта выключальнік святла.

* * *

Міхась скардзіцца сябру:

— Ой-ой, як той час плыве!

— Я бачу, што плыве ён яшчэ хутчэй, калі ты пачынаеш наракаць.

* * *

Малы Тамаш вярнуўся пасля ўрокаў са школы. Сёння быў урок геаграфіі і хлопчык пазнаёміўся з глобусам.

— Не будзе канца свету, — сказаў ён сваёй бабулі з пачуццём пераможцы.

* * *

Унучка і бабуля сядзяць перад тэлевізарам і аглядаюць веласіпедныя гонкі.

— Хто гэта бачыў, каб дзеўка перад стартам цалавала спартсмена, — абураецца бабка.

— Тады яшчэ яны чыстыя, — адказвае дзяўчынка.

**З-ка**

## Жабка

Дождж халодны.
Зябка-зябка!..
Пасялілася ў нас жабка.
Скокі-скок,
квакі-ква!
І суседская дзятва
весяліцца разам з жабкай.
Не ступіце ёй на лапку!

Што за спрыт і весялосць!
Толькі жабка ў нас не госць:
скача-квача гаспадынька,
з белым банцікам дзяўчынка.

**Ала Канапелька**

## Індык прыехаў з-за мяжы

У двары курыны крык:
— Сёння дасць канцэрт індык,
Ён прыехаў з-за мяжы.
Каб спяваў ён ад душы
Нам яму прынесці трэба
Грэчкі мех і торбу хлеба!

Певень крык курыны чуе,
Пад кустом адзін сумуе:
— Каб хто грэчкі мех мне даў,
Цэлы год яму б спяваў,
Нават польку б станцаваў!

**Віктар Шніп**

*Дзяўчаты з Ягуштова дэкламуюць вершы беларускіх класікаў.* **Фота М. В.**

## Што ў табе, музыка, ёсць?..

Рокавая музыка ўзнікла каля сарака гадоў таму ў Злучаных Штатах Амерыкі і хутка заваявала ўвесь свет.

Слова „рок" значыць у англійскай мове „калыхацца". У гэтай музыкі — выразны рытм і лёгка ўпадаючая ў вуха мелодыя, якія заахвочваюць да калыхання целам і танца.

Рок слухаюць перш за ўсё людзі маладыя і вельмі маладыя, такія, як і вы. Падабаецца ім выгляд і паводзіны музыкаў на сцэне — фантастычныя, шалёныя прычоскі і вопратка, свабода і „люз", размовы з публікай. У песнях — словы пра справы важныя для моладзі, якая, бывае, ведае напамяць тэксты і спявае разам з салістамі. Рытмічная музыка падымае танцаваць, і канцэртныя залы поўныя публікі, калышучайся пад музыку. Такім чынам рокавыя гурты здабываюць сваіх фанатаў — іначай любіцеляў, аматараў, а музыкі становяцца ідаламі, узорам у спосабе апранання і паводзін.

(лук)

## УВАГА, КОНКУРС!

У чарговым конкурсе „Зоркі" вы можаце выйграць альбом для фотаздымкаў. Адкажыце на пытанні і адказы дашліце ў рэдакцыю.

1) Назавіце трох беларускіх святых. Пра іх мы пісалі ў „Зорцы".

З-ка

## ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

### Песня вясёлых жабракоў

Золак мёдам салодкім
Ціха льецца ў акно,
Прапалосквайце глоткі!
Дапівайце віно!
Не дружу я з піўною,
Маё гора з піўной.
Пачынайце са мною,
Запявайце за мной.

*Прыпеў:*
Вольным шлях не заказан
Ад пачатку вякоў,
Каралеўскім указам
Не стрымаць жабракоў. 2х

Па няўз'езджанай грудзе,
Праз хлюпоту і гразь
Мы ідзём міма суддзяў,
Нашы вочы гараць.
Міма іх дабрачынных,
Пустазвонаў маны,
Міма іх у лагчынах
Хай крычаць груганы!

Ні праклёны з амбона,
Ні закон караля
Не стрымаюць разгону —
Перад намі зямля,
Нам не цёмна! Мы бачым!
Не чапай, не трывож
Нашай брацці бядачай
Зграя хітрых вяльмож!

Калаціся ў трывозе
Багацей крывасмок!
Чуеш — стук па дарозе
Натруджаных ног!
Будзе дзень і пажарам
Запалае усход,
Абурэнне і ярасць
Клічуць нас у паход.
Людзі! Скора пачнецца
На зары займаць,
А хто першым прачнецца,
Тых прашу запяваць.

*Прыпеў...*

## МАЛЮНКІ ШКОЛЬНІКАЎ

*Мая вёска.* **Малюнак Касі Анішчук (IV клас) з Кленік**

## ПАНАРАМІЧНАЯ КРЫЖАВАНКА

Птушка, сімвал Беларусі
Хросная маці бацькам
На снеданне белы або жоўты
Дрэўка на каляды
Спявае ў царкве
На ёй можна сесці
Для мыцця
Кароль у Расіі
Малая Ўаанна
Першая літара ў нашым алфавіце
Святыня
... небарак
... тарабуня
Насякомае, падобнае на пчалу
Апошняя літара ў нашым алфавіце

## Валун і мастак

Каля вёскі Валілы, што ў Гарадоцкай гміне, на пабярэжжы рэчкі Супраслі, якраз насупраць сядзібы сусветна вядомага беларускага мастака Лёніка Тарасэвіча, ляжыць аграмадны камень.

Што ўжо людзі не спрабавалі рабіць з гэтым незвычайным валуном! Адны надзяўблі на яго хрыбце шнурочкі вузенькіх, але глыбокіх, дзірачак, каб вада, замярзаючы, раскалола яго, ды нічога з гэтага не атрымалася, бо такую моц нішто не име. Другія аграмаднымі молатамі з розных бакоў намагаліся па кавалачку яго драбніць, а ён аніякім молатабойцам не паддаваўся. Іншыя падкопваліся пад яго, раскладвалі жарысты касцёр, спадзеючыся, што гарачыня яго скрышыць, ды надарэмна: спатрэбілася б, пэўна, спаліць усю Крыноцкую пушчу, каб раздрабніць такую глыбу.

Так спакон веку і ляжыць той валун: ніякая сіла яго не можа адолець — ні вада, ні агонь. Таму і спавіты ён мноствам апаведаў і легенд розных. Адну з іх і мне тамтэйшыя людзі паведамілі. Было тое тады, калі тут і нага чалавечая не ступала. Вакол прасціралася непраходная пушча ды вілася па ёй вось гэтая рэчачка. У балотнай твані сядзеў д'ябал. Бачыце, калісьці нячысты толькі ў такіх месцах і вадзіўся. Гэта цяпер адно стаў ён па гарадах шляцца. Тырчэў там ды з нуды корпаўся ў балоце, ажно бачыць: берагам рэчкі ідзе чалавек. Здалёку, відаць, бедалага вандраваў — схуднелы ды абдзёрты ўвесь. Прысеў ён на купіну, а зmoраныя ногі ў ваду апусціў і пабоўтвае імі, каб хутчэй стомленасць з іх сагнаць. А таго д'ябла ад злосці аж чорт носіць: „Бач ты, — мала таго, што па маім беразе валочыцца, то яшчэ і мяне сваім боўтаннем непакоіць уздумаў! Чаго добрага — возьме і назаўсёды тут жыць застанецца. Ну, тут то я цябе і звяду са свету..."

## ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

Выкалупаў нячысты з багны каменьчык, бы зерне бобу са струка, папляваў на яго, перакінуў разы тры з адной сваё калматай лапы ў другую, і тут уваччу маленькі камушок у аграмадны валун абярнуўся. Пачаў размахвацца шайтан з усяе свае чартоўскай моцы, але ж, як на зло, узяў ды паслізнуўся ў топелі, і глыба, замест у чалавека, бухнула на скрай лугу. Убачыў вандраўнік, чым тут пахне, — лахі пад пахі ды ходу з гэтых мясцін. А валун так і астаўся ляжаць там, дзе ўпаў. Ад таго, што чорт уваліў тут валун, і павялася назва — Валілы.

Магутны той валілаўскі валун, нязрушны, бы той мастак Лёнік. Яго карціны славяць па ўсіх краінах зямной кулі і запрашаюць на моры-акіяны. Але ён паездзіць-паездзіць па свеце, паўзіраецца-паўзіраецца на розныя тамашнія дзівосы, адкрые-пакажа свае незвычайныя творы ды зноў вяртаецца ў Валілы. Тут яму найзацішней жывецца, найспакайней спіцца і найбольш плённа малюецца. Устане ён рана, выйдзе на ганак, зірне на валун: „Добры дзень, стары!" — гукне яму, а рэха з Крыноцкай пушчы адказвае: „Тварь, твары!.." І Лёнік бярэцца за пэндзаль.

**Пачуў, пабачыў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

Новыя вершы

*БАРЫС РУСКО*

### Слова праўды

Яшчэ ў нядзелю ў гэтым месяцы
не было пня дыяметрам у два метры
і пер'е птушынае не ляжала
на мёртвым корані.
Гляньце!
Як пахіліліся дрэвы
і маўчаць звяры,
а бліскавіцы малююць крыж на небе,
а дажджы мыюць ссечанае цела.
Яшчэ ў нядзелю ў гэтым месяцы рос дуб
і, пасля кожнай ночы,
клікаў лісцем дзень,
а чорны бусел — баязлівец
хаваўся ў яго абдымках.
Гляньце!
Губляе пер'е, чорнае, як словы
праўды аб пушчы, што на каленях.

### Спёка

Упапярок дня
пырснула жарам сонца
і зацемку шукае лупатая птушка,
а неба такое блакітнае,
што відаць паласу,
па якой уцякае зямля.
Побач рагочуць зоркі, —
прасяклі потам, —
а стары намацвае
другую пару шкарпэтак,
каб даказаць,
што няма спёкі.

### Жнівень

У альтанцы на момант спынілася
лета.
У кошыках поўна крышынак сонца.
Соладка і парна ў даспелым паветры,
толькі камар крылом варушыць дзень
наперад.
Прастору жоўтую ствараюць гарбузы
і загарэлыя рукі,
борздыя ў працы.

### Хмель

Па шыю абматалі алёсавы луг павоі
хмелю.
Хмельнае сонца,
заблытаўшыся ў кучаравай лазе,
патанула ў зялёных шышках.
Вынырне ў куфлі піва
і пакажа нам казку.

### Абуджэнне

Адчыняю дзверы ў раніцу,
а пушча ў вэлюме,
а дзяўчына з сонным сонцам у траве,
а птушка на маім плячы, —
і я ў сэрцы цішы,
паміж ноччу і днём,
на каранёвым спляценні Прыроды.

### Ціш

Падай мне нотаў болей, ціш,
каб паплылі з іх залатыя песні.
Не ціхая ты —
з цябе мае словы і мая хада па зямлі.

### Крыніца моцы

Сярод зялёных старонак кнігі дрэў
шукаю слоў у падтрымку,
і мяккіх слоў,
бяспечных пераходаў праз
твань начэй і дзён.
Крыніцу моцы шукаю.

### Недаступнасць

Раскрыта кніга.
Побач мінулага
мосціцца заўтра —
ланцуг прыроды,
ісціны звенні.
Ды як адолець змест
без зрэнак ведаў.

*ЮРЫ БАЕНА*

### Пад восень

У даліне ракі
крот точыць зямлю,
дакранае карэнняў траў,
лотаці і незабудак.

Побач ракі —
кусты каліны.
Тут таполі,
вербы, альшыны.

Вецер варушыць кронамі дрэў,
гнёздамі птушак,
лісцем як памяццю...

Ажно да болю рвецца
кроўная іх повязь!..

..................

Я
сцежкай каля ракі
іду.
У самоце іду.
Сум асенні нясу,
сваю боязь...

### Мур

Паміж рэчаіснасцю
і маімі снамі
будуецца мур.
Падымаецца ён вольна,
засланяючы святло
маіх сноў.

Няма ў мяне сіл,
ні спосабу,
каб спыніць яго,
каб паваліць
або разбурыць.

Усё вышэй ды вышэй
узнімаецца мур —

Недалёкі ўжо час,
а гэты мур
увойдзе ў нябёсы!..

### Камень

Гэты камень у бруку
маўчыць галасней
чым я.

Мажліва, што і я
буду маўчаць як камень,
калі стануць таптаць,
як брук.

### Дыктатар

Адзін агульнавядомы дыктатар
Узяў у руку аловак,
Вядзе ім па карце...

Не! Сто гадоў будуць трываць у страху
Айчыны нямыя.
Малыя.
Свае — нічые — чужыя!

* * *

Адбудаваць трэба наш дом —
Камень паставіць пры камені.

Вачам — адкрыць трэба ўсе вокны,
Словам — аднавіць крыніцы.

Дом не можа быць без даху,
Без святасці і памяці,
Без вогнішча,
Якое ветразю надзеі.

Увайшоўшы ў такі дом,
Нават вораг
Каля парога зніме боты.

* * *

Будзь чужы
сярод непрыязных чужых.
Будзь самотны
сярод абыякавых сваіх.
Будзь сабою,
нязломны,
аж да болю...

Калі памяць твая
жыве,
Калі кліч Айчыны
нясеш!..

* * *

Моцныя народы, як сабакі, кідаюцца
ў абарону сваёй годнасці.

Беларусы толькі пытаюць:
навошта?

* * *

Доўгатрывалы холад
спалохаў вясну,
патушыў
песні кахання...

На падаконніку
вяне надзея.

## Думкі, мае думкі!

Гэтая мая думка, мо і з'яўляецца думкай старога, звіхнутага на псіхіцы чалавека, але ўсё ж такі думка. Я яе выкажу, „Ніва", калі захоча, надрукуе, а шаноўныя чытачы будуць мяне судзіць і прэзентаваць свае погляды, як калісьці ў рубрыцы „Якія мы людзі". Гэтую рубрыку я пачаў у „Ніве" яшчэ тады, калі нашыя сённяшнія журналісты не нарадзіліся, альбо былі ўсяго толькі маленькімі дзеткамі. І вельмі цешуся, што яшчэ і сёння магу прачытаць „Дзякую качку" пяра спадарыні Ады Чачугі іменна ў рубрыцы „Якія мы людзі". Зрэшты, не толькі аб беднай качцы пані Ада выказвалася, і думаю, што не раз будзе яшчэ выказваца ў гэтым месяцы.

Нядаўна я прачытаў маленькую кніжачку Антона Вацыка „На погыбэль каталіцтву". Яна чамусьці мяне прымусіла задумацца глыбей над лёсам чалавека. Чалавека з вялікай літары і чалавека толькі з назвы, паколькі мае ён дзве ногі, дзве рукі і валодае чалавечай мовай, але якому далёка, напрыклад, да дэльфіна. Аднак мы завемся людзьмі, а Бог нам дазволіў усё жывое падпарадкаваць сабе, (калі б не дазволіў, то мы і самі ўзялі б) ды над ім знутакавацца: забіваць, саліць жыўцом, мучыць аж здохне (селядцоў, рыбу ловім і кідаем на бераг без вады, ракаў варым кідаючы жывых у гаршчок), а пасля з'ядаць, папіваўшы півам ці гарэлкаю, бо ж мы такія „спагадлівыя" людзі і „дбаем", каб ім дагадзіць цынічна гаворачы: „Ну, налівай, бо селядзец любіць плаваць!" Прытым усе зарагочам, дружна падымем шклянкі за чыесьці здароўе. Божа, якая ж несправядлівасць і крыўда!

Чалавек на чалавека не можа ўздзейнічаць розумам, які павінен весці да аднолькавага вываду — міру, спакою, дружбы ды сэрцам, якое сваёй чалавечай дабрынёй павінна чыесьці цвёрдае сэрца размякчыць, нібы воск. Ого! Калі ты мяне не паслухаеш і не падпарадкуешся (гэта датычыць чалавечых адзінак, розных групаў і дзяржаў, нават не заўсёды адпаведнага ўзроўню ці велічыні) то я цябе прымушу сілай. І на жаль, у нашым вучоным ды цывілізаваным свеце народы, асабліва іх правадыры, паводзяць сябе нібы дзікуны тысячагадовай даўнасці. З той толькі розніцай, што сённяшняя вучонасць могуць у імгненні вока выбіць, спаліць ды атруціць цэлыя кантыненты не выходзячы з бункера і не бачыўшы каго знішчажаюць і не ведаючы, за што пазбаўляюць жыцця дзяцей, прыгажунь-дзяўчат, добрых, ласкавых, сардэчных, клапатлівых маладзіц ды старэчаў, якія прагнуць яшчэ раз спакойна, дастойна, як дадзена пажылым людзям, зайсці ў царкоўку ці ў храм іншай канфесіі ды памаліцца, а пасля паглядзець на спакойнае, мірнае, чыстае неба, якое пасылае народам спакой і шчасце. На жаль, гэта мае нерэальныя мары, якія праўдападобна ніколі не споўняцца, бо свет замест лепшым, усё становіцца горшым. Я маю на ўвазе свет рэальны, людзей, а не прыгажосць прыроды наогул.

Хто выклікае войны і чаму яны служаць усе мы ведаем: дзеля панавання „вялікіх" людзей з сем'ямі, ідэалогіяй і воўчым правам над „збродам". Але рэдка хто, а мо і ніхто, ніколі не задумаўся над тым, якую ролю ў трагедыі маладых людзей, іх бацькоў іграе рэлігія? Я не гавару якая рэлігія, а проста — рэлігія.

Бог стварыў чалавека на радасць і для шчасця прадаўжання папуляцыі, якая па волі Божай існуе ад Адама і Евы. Прытым вызначае яму адпаведную колькасць гадоў бытавання на планеце (усё роўна на якой, бо я не веру ў прывілею адной толькі Зямлі), але пераважна столькі, колькі ён патрабуе, каб дагадаваць да канца сваіх бацькоў, пацешыцца ўнукамі. Няхай сабе гэтае жыццё трывае і сто гадоў на гэтай, возьмем, Зямлі, нашай цудоўнай планеце, але ж усё роўна яно даецца чалавеку адзін-адзіны раз. Прынамсі ў выглядзе чалавека, якой бы ён не быў нацыянальнасці, расы ці веры.

Чаму рэлігіі адыгрываюць вялікую ролю у так масавай гібелі народаў? А таму, што многія, а мо і ўсе рэлігіі свету павучаюць аб тым, што загінуўшы чалавек на вайне абавязкова будзе святым (як бы не існавалі іншыя спосабы на пераконванне, што можна быць святым і быць у раю). Будысты і мусульмане гавораць сваім вернікам, што кожны загінуўшы салдат апынецца ў небе ўжо на трэці дзень.

Калі б не было такой рэлігійнай прапаганды і фальшывай навукі, то хто ведае, ці ў гады II сусветнай вайны знайшлося б аж столькі дабравольцаў-камікадзэ ў жывых тарпедах ці самалётах або сённяшніх самазабойцаў, знішчажаючых сваіх ворагаў, прывязаўшы ўзрыўчатку да свайго цела.

А ці ж каталіцкая рэлігія не вучыць гэтага самага? Мала таго, што ксяндзы бласлаўляюць жаўнераў перад боем малітвай і крапілам, то яшчэ дазваляюць паэтам пісаць пустыя словы песняў, у якіх гаворыцца: „На военцэ ладне, кто Бога упросі. Жолнежэ стшэляё, Пан Буг куле носі..." Бачыце братцы, як добра?! Хопіць памаліцца і ўжо можна страляць у іншых людзей, як у мішэнь у час практыкаванняў.

Я быў на судовым працэсе епіскапа Чэслава Качмарка, які гадамі шпіянажыў у карысць адной з заходніх дзяржаў. Калі ён расказваў аб адносінах чалавек—вера—амбіцыя, то не толькі мне, маладому афіцэру валасы дыбам станавіліся, але і суд абураўся. А сведка ў гэтым працэсе, былы дыпламат РП у Рыме расказваў, як гітлераўскія саноўнікі-вайскоўцы і дыпламаты гасцявалі ў папы Пія XII у 1939 годзе, а пасля гэты ж самы папа блаславіў вермахт на вайну з Польшчай.

Заўважце і падумайце, што амаль усе войны, а гэта значыць — смерць, кроў, пажары, калецтвы дзяцей і старых, бадзянне тых жа, і ўрэшце турмы, лагеры і крэматоры — „ад імя Бога". Звярніце ўвагу, хацяя тут нічога новага не скажу, што нават Намеснік Сына Божага на Зямлі, якім сябе прызнае папа, не баіцца Бога выступаць перад светам з рознымі, антычалавечымі прапановамі, альбо і анафемамі на іншых Божых істот. Папа Пій XII блаславіў хрысціян, нападаючых на іншых хрысціян, каб Бог памог гітлераўцам знішчыць Польшчу з яе нацыямі. Між тымі хрысціянамі была толькі тая розніца, што ў нямецкіх салдат на пражках паскаў быў надпіс „Бог з намі", а польскія жаўнеры насілі на шыях медалікі і крыжыкі з выявамі таго ж Бога.

Калі я гэта пісаў, прыйшла мне ў галаву вось такая думка: пагляньце, які парадокс ва ўсім гэтым. Калі аб'ектыўна разабрацца, дык у нашыя часы найменшымі грэшнікамі былі... бальшавікі. Яны гінулі за Радзіму, за Сталіна, а ніколі не спасыліся на Бога, як гэта рабілі іншыя, калі пасылалі сваіх дзяцей на смерць за свае панаванне і дабрабыт свайго клана, сям'і, дынастыі або партыі. Чаму ніводзін Хірахіта, Накамура ці іншы высокі саноўнік не захацеў быць камікадзэ, каб на трэці дзень апынуцца ў небе, толькі падмаўляў і пасылаў іншых? Што, ён быў і ёсць такі дбайны, каб сваімі самазабойцамі насяліць неба? Не, яны ім патрэбныя для абароны ягонага панавання!

Цешуся, што наша, праваслаўная рэлігія да ўсяго на Зямлі падыходзіць разумна, памяркоўна. А было б яшчэ лепш, калі б Праваслаўе, як Бог прыказаў, сваёй святой верай і магутнай славай, якая плыве ад Тварца сусвету дабілася міру і дружбы паміж усімі народамі на Зямлі. Калі гэта на планеце запануе, то і не будзе грэшнікаў і Страшны Суд не будзе страшны. Няхай нашая рэлігія не вядзе сваіх салдат, каб біліся і гінулі за не заўсёды слушную справу, якую вядуць правадыры, дзе жывуць праваслаўныя людзі.

**Васіль Петручук**

Новыя вершы

***

Цішыня ў пакутах. Спакой.
Блаславенне і Вечнасць над намі.
У тумане, у аблоках увесь дзень.
А вакол усё ззяе.

Дакранецца галінка да шкла,
То — Тваё Блаславенне.
Цішыня ў пакутах. Спакой.
І нябачная Вечнасць над намі.

***

Праз белы мармур тваіх сцен —
я на каленях.
Паветра не стане зусім
маім маленням.

Я веру ў Дар —
Дар ні за што,
якога я не варта,
не за маленні,
не за боль, —
у ім толькі
Твая Ласка.

**Алена Яскевіч**

# АБВЯРЖЭННЕ

Не ведаю, хто ў рэдакцыі апрацоўваў мой матэрыял з пабыўкі ў Дубічах-Царкоўных на свяце Апосталаў Пятра і Паўла („Ніва" н-р 32 ад 6 жніўня 1995 г.), але прашу ветліва звярнуць увагу на тое, што я напісаў аб мностве людзей у храме і на цвінтары, а не на могільніку. Могільнік — гэта месца дзе хаваюць трупаў, а цвінтар — агароджанае месца, на якім стаіць царква (гэта проста плошча, дзе стаіць народ, які не месціцца ў храме і дзе вакол царквы ходзіць хрэсны ход). А вы ставіце мяне ў брыдкім палажэнні.

**Васіль Петручук**

**Ад рэдакцыі:** Віноўнікам гэтага недаразумення стаў ніжэйпадпісаны. Пры апрацоўцы не ўлічыў я таго, што не кожны *цвінтар* можна назваць *могільнікам*, хаця акрэсленне *цвінтар* можна аднесці да *прыцаркоўнага могільніка*. Паводле „Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" слова *цвінтар* мае два значэнні: *царкоўнага двара* і *могільніка пры царкве*. У канкрэтным выпадку Дубіч-Царкоўных прымяненне слова *могільнік* замест *цвінтар* аказалася памылковым, за што прашу прабачэння ў Аўтара і ў чытачоўы.

**Віталь Луба**

# 11-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Матф., 18: 23-35)*

Евангелле 11-ай нядзелі пасля Пяцідзесятніцы ўзятае з 18-га раздзела Евангелля паводле Матфея. У ім цытуецца прытча пра неміласэрнага даўжніка. Аднойчы цар вырашыў разлічыцца са сваімі падначаленымі. Выявілася, што адзін з іх запазычыўся ў яго на вялікую суму дзесяці тысяч талентаў; практычна доўг немагчымы да выплаты. У адказ на ягоныя благанні цар велікадушна дараваў яму ўвесь доўг. Памілаваны даўжнік сустрэў чалавека, які яму быў вінны невялікую суму грошай і бязлітасна запатрабаваў вярнуць доўг. Той прасіў, каб пачакаць, аднак дарэмна. Крэдытор, якому цар дараваў вялізны доўг, падаў свайго даўжніка ў суд. Калі цар даведаўся пра гэтае, паклікаў нядзячнага слугу і кажа яму: „Увесь доўг твой я дараваў табе, калі ты папрасіў мяне; ці ж не належала табе змілавацца над сябрам сваім, як і я змілаваўся над табою?" І, разгневаўшыся, валадар ягоны аддаў яго катам, пакуль не верне ўсяго даўгу. „Так і Айцец ваш Нябесны зробіць вам, калі кожны з вас ад сэрца свайго не даруе брату свайму праступкаў ягоных", — гэтымі словамі закончыў Хрыстос сваю прытчу.

Слухачы лёгка зразумелі згаданую прытчу, ды наогул гэтак ясна сфармуляваная праўда не вымагае каментарыя. Справа ў тым, што разумець цяжэй, чымсьці выканаць. Прабачэнне, дараванне крыўдаў і правінаў вымагае пераадолення нашай чуллівай амбіцыі. Яно пярэчыць нашаму паняццю справядлівасці. „Як жа гэта так? Такое злачынства мае яму абысціся дарам?" — пытаем.

У штодзённым жыцці назіраем безліч сварак, грызні і варожасці. Пераважна іхная прычына ляжыць у канфлікце інтарэсаў, у спаборніцтве за матэрыяльныя або духоўныя каштоўнасці. Чалавек бы граблі, горне ўсё да сябе і кожны замах на нешта, што магло б належаць яму, выклікае зайздрасць і варожасць. Канфлікты ўзнікаюць з прычыны канкурэнцыі за вышэйшую зарплату, пасаду, за прызнанне або папулярнасць. Тым часам чалавеку выпадала б задумацца над тым, чаму гэта ўсё што найлепшае належыць толькі яму; чаму ў кожнай спрэчцы толькі ён мае слушнасць. У нашых апанентаў або канкурэнтаў ёсць таксама свае рацыі, якія выпадала б справядліва ўлічыць і зразумець, бо наогул ніхто не мае гэтульки рацыі, каб прынамсі крыху яе не меў другі бок.

Са штодзённага назірання бачна, што евангельскі заклік да прабачэння на практыцы мае вельмі слабы рэзананс, тым часам гэта адзнака не толькі вялікадушнасці, але і розуму. У Старым Запавеце ёсць на гэта вельмі красамоўны прыклад. Цар Саўл зайздросціў Давіду славы і прабаваў яго забіць. Калі аднойчы Давід застаў спячага ў шатры Саўла, ён не забіў яго, але адрэзаў толькі кусок вопраткі, каб даць зразумець, што ён быў тут, аднак не скарыстаў нагоды адпомсціць свайму праследаваццелю. Пасля гэтага Саўл раскаяўся перад Давідам і нянавісць паміж імі ператварылася ў сяброўства.

Аднойчы вядомы англійскі драматург Бернард Шоў сустрэў на вузкай сцежцы свайго заядлага праціўніка. „Не ўступаю з дарогі дурням", — загаласіў той. „А я заўсёды", — сказаў Шоў і зышоў са сцежкі. Жыццё паказвае, што зло спараджае зло. Падчас вясковых забаваў, бывае, што нехта наступіць камусьці на нагу. Той ударыць віноўніка, а тамтой яму аддасць. Неўзабаве за абодвума заступяцца сябры і знаёмыя, а потым салідарна ўсе аднавяскоўцы. Гэтак пачынаюцца нават міжнародныя канфлікты; не на кулакі і шчыкеты, але на ракеты і танкі.

Атрымоўваецца, што нават розум і дальнабачнасць або цвярозы падлік магчымых прыбыткаў і стратаў схіляе да ўступчывасці і прабачэння. Яны могуць прадухіліць большае зло, спыніць разгар помсты і рэваншу.

Законы джунглі, барацьба за быт, на жаль, усё роўна бяруць верх над чалавечнасцю. „Дбай пра сябе і пра сваю карысць. Бараніся і барані сваіх правоў, каб не быць казлом адпушчэння. Калі не хочаш быць сапхнуты ў канец — распіхайся локцямі", — такая прыблізна філасофія звычайнага, сучаснага чалавека. Людзі добра ведаюць, што маральнае, а што немаральнае, аднак жывуць паводле запаветаў практычнасці і выгады. Дзіўная гэтая духоўная акрабатыка, якая не выклікае нават дакору сумлення або сораму.

Некалі, у Эфесе прастарэлага апостала Іаана вучні прыносілі ў храм, каб пачуць ягоную казань. Апостал гаварыў аднак няшмат: „Дзеткі, любіце адзін аднаго". Расчараваныя вучні пыталіся: „Настаўнік, чаму ўвесь час гаворыш тое самае?" — „Бо гэта запавет Гасподні, — адказваў Іаан, — калі яго выканаеце, хопіць з вас".

Ведаючы чалавека і ягоныя прыродныя слабасці Царква гэтак жа паўтарае ўвесь час тое самае. Між іншым заклік: „Даруйце, калі што маеце на каго, каб і Айцец ваш, што ў нябёсах дараваў вам вашыя грахі" (Марк., 11:25).

**а. Канстанцін Бандарук**

# Бібліяграфічны куточак

CHOŁODOWSKI Maciej: Kontrowersyjne ankiety (w Białymstoku). *Gazeta w Białymstoku* 9.06.1995 r., nr 133 (904), s. 2.

Hajduk Mikołaj: Unia Brzeska 1596. Białystok 1995; Rec. KOMITET Redakcyjny Biuletynu Informacyjego Bractwa Prawosławnego: Promocja książki Mikołaja Hajduka "Unia Brzeska 1596". *Biuletyn Informacyjny* 1995, nr 15/17, s. 11-12.

(kr): Z Grabarki na Hrabarkę. Jarosław Janowicz chce zmiany nazw 200 miejscowości (w woj. białostockim). *Kurier Poranny* 8.06.1995 r., nr 129 (1432), s. 1; Odp. JANOWICZ Jarosław: Listy do redacji. "Anonimowa i tendencyjna antybiałoruska dezinformacja". *Kurier Poranny* 30.06 - 2.07.1995 r., nr 147 (1450), s. 7.

Mironowicz Eugeniusz: Białorusini w Polsce 1944-1949. Warszawa 1993; Rec. WASILUK Jerzy, *Pogranicze*, t. 4, Białystok 1994, s. 155-166.

MIRONOWICZ Eugeniusz: Uwarunkowania rozwoju białoruskiej świadomości narodowej na Białostocczyźnie w latach 1918-1939. *Pogranicze*, t. 4, Białystok 1994, s. 69-86.

POLSKIJ Spartak: Katolicy w Republice Białoruś. *Pogranicze*, t. 3, Białystok 1993, s. 37-48.

SADOWSKI Andrzej: Skład wyznaniowy i narodowościowy mieszkańców północno-wschodniej Polski (obszaru "Zielone Płuca Polski"). *Pogranicze*, t. 2, Białystok 1992, s. 5-30, tab., mapki.

— Stosunki polsko-białoruskie na Białostocczyźnie w świetle listów do redakcji lokalnych gazet. *Pogranicze*, t. 2, Białystok 1992, s. 65-104.

SIEMIENIAKO Kazimierz: Sokrat Kryński bizantyjski. *Kurier Podlaski* 9.06.1995 r., nr 129 (3057), s. 7.

SKROBOCKI Eugeniusz: Białoruś po referendum. Grodno. Skutki dla kilku pokoleń. *Gazeta w Białymstoku*, 20-21.05.1995 r., nr 116 (887), s. 3.

TARANOWSKA Elżbieta: Szkoła białoruska a białoruska świadomość narodowa. *Pogranicze*, t. 2, Białystok 1992, s. 31-48.

TARASEWICZ Leon: Moim zadaniem jest malować. Rozm. przepr. Bogdan Dudko, Jan Turonek. *Karty*, pismo literackie, R. 4: 1995, nr 2/95, s. 1-4, foto, il.

WASILUK Jerzy: Organizacje polityczne i społeczne ludności białoruskiej w Polsce w latach 1918-1939. *Pogranicze*, t. 1, Białystok 1992, s. 131-148.

**Р. С.**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXXII. Жыццё для справў „пилно потребных"

У часе, калі нядобразычлівыя беларусам, украінцам і расіянам сілы намагаюцца супрацьставіць нашыя народы, распаліць варожасць і нават спраўацыраваць канфлікты паміж імі, ва ўсёй веліччы паўстаюць светлыя постаці тых выдатных творцаў і дзеячаў з сівой мінуўшчыны, якія здолелі ўзняцца панад племяннымі ці рэгіянальнымі розніцамі, дзеля яднання ўсіх праваслаўных перад фактам смяротнай пагрозы з боку каталіцкай і паланізатарскай агрэсіі. Пра аднаго з іх, Івана Вішанскага, ішла ў нас гаворка папярэдне, сёння прыгадаем імёны ягоных сучаснікаў — братоў **Лаўрэнція і Стафана Зізаніяў**.

Паходзілі Зізаніі (сапраўднае прозвішча іх — Куколь, якое ў перакладзе на грэчаскую мову вымаўляецца як „зізанія") з сярэднезаможнага баярства з мястэчка Тустынь (таму часам называліся Тустаноўскімі), што на Украіне. Абодва атрымалі грунтоўную адукацыю ў славутай Астрожскай акадэміі, дзякуючы якой выдатна развілі свае дараванні і цалкам прысвяцілі сябе найвышэйшай місіі — абароне спрадвечнай праваслаўнай веры, пашырэнню асветы і развіццю культуры родналасных беларускага і украінскага народаў.

**Лаўрэнцій Зізанія** пасля заканчэння Акадэміі адразу пайшоў навучаць царкоўнаславянскай і грэчаскай мовам, спачатку ў праваслаўных брацкіх школах Львова, Бярэсця, Вільні. Адначасова ён актыўна ўдзельнічаў у праваслаўным духоўным і грамадскім руху. Прыбыўшы ў Вільню, Лаўрэнцій адразу ўзяўся за напісанне *Науки ку читанию и разумению писма словенского* — буквара, які выдаў ён у брацкай віленскай друкарні ў 1596 г. Падручнік выдатна паспрыяў пашырэнню асветы сярод розных пластоў беларускага і ўкраінскага насельніцтва. Адукацыйную каштоўнасць буквара павялічыў змешчаны ў ім *Лексис. Сиречь Реченія, Въкратъце събранны. Из словенского языка на простый Рускій Діалект истолкованы*. У ім адначасна з тлумачэннем незразумелых царкоўнаславянскіх слоў *аўтар упершыню ставіць перад сабой нацыянальна ўсвядомленую задачу — праз слоўнік... дапамагчы вучням брацкіх школ авалодаць простай народнай моваі*, — сцвярджае беларускі вучоны **Алена Яскевіч** і падкрэслівае: *„Лексіс" Л. Зізанія не столькі перакладае з царкоўнаславянскай, праз авалоданне якой праходзіла асвета ў той час, колькі вучыць роднай мове.* У разуменні Л. Зізаніі адукаваны чалавек — гэта глыбока рэлігійны чалавек, асвечаны ў асновах праваслаўнай веры і непахісна адданы ёй. Таму аўтар *Науки* змясціў тут кароткае тлумачэнне падстаў праваслаўя ў пытаннях і адказах пад выглядам размовы *странного зловернаго* з *православным благоверным*.

Кніга карысталася папулярнасцю і ў настаўнікаў, і ў вучняў — Л. Зізанія быў дасканалым метадыкам. Пасля выхаду *Науки* ён адразу ўзяўся *за речь пилно потребную* і напісаў *Грамматику словенску съвершеннаго искуства осми частій слова и иных нуждных*, якую выдаў таксама ў 1596 г. у віленскай брацкай друкарні. Падручнік гэты, падобна *Лексису*, выконваў падвойную ролю: навучаў асноў царкоўнаславянскай і тадышняй беларускай мовы, бо кожнае правіла падавалася на дзвюх мовах з прыкладамі, узятымі з абедзвюх.

Каталіцкае духавенства адразу ўсвядоміла пагрозу ягонай каталіцызацыйнай і паланізатарскай дзейнасці, падбухторыла сваіх фанатычных прыхільнікаў, і Л. Зізанія апынуўся ў смяротнай небяспецы. У 1597 г. ён пакінуў Вільню і стаў хатнім настаўнікам дзяцей праваслаўных магнатаў спачатку Саламярэцкіх, потым Астрожскіх. Пасля смерці ў 1603 г. князя Аляксандра Астрожскага яго ўдава-каталічка выдаліла са свайго двара Л. Зізанію, і ён нейкі час служыў святаром у царкве ў Яраслаўлі (каля Пярэмышля), затым у Корцы на Валыні. У 1619 г. на запрашэнні архімандрыта Кіева-Пячэрскай лаўры пасяліўся ён у Кіеве. Тут займаўся перакладчыцкай і рэдактарскай работай, вучыў у брацкай школе. У 1620—23 г. напісаў праваслаўны *Катэхізіс* і завёз дзеля выдання рукапіс у Маскву. На жаль, маскоўскія рэдактары гэтак знявечылі твор, што ні аўтар, ні патрыярх і ні цар не былі ім задаволены і выдадзены ўжо друкам *Катэхізіс* быў знішчаны.

Параза не пахіснула Л. Зізанію ў самаахвярнай дзейнасці ў абароне праваслаўя. Гэта ў асноўным ён выкрыў і разграміў адступніцтва ад праваслаўнай веры Мялеція Смятрыцкага (на саборы ў Кіеве ў 1627 г.) хоць і быў гэта самы блізкі яго сябра. Л. Зізанія, як глыбока веруючы праваслаўны хрысціянін, асудзіў грэх, дапушчаны М. Смятрыцкім, а не яго як чалавека.

У асобе Лаўрэнція Зізаніі-Тустаноўскага мы маем светлы прыклад падзвіжніка, які ўсё жыццё і талент аддаў двум брацкім народам — беларускаму і ўкраінскаму, умацаванню ў іх праваслаўнай веры праз пашырэнне асветы.

**Мікола Гайдук**

 

# Юбілей напрыканцы свету

*(быль)*

— Слухай, Ніля, нашаму калектыву будзе ўжо дваццаць гадоў, калі б палічыць! Памятаеш, як мы першы раз сустрэліся? — кажа Неаніле Харошцы Верка Хвайко.

Так, пара арганізаваць гадавіну. Гэта ж добры кавалак часу. Ніле было ўжо за сорак, калі пачалі збіраць кабет для спеваў. А шмат іх тады назбіралася, і сталых, і маладзенькіх, і зусім дзяўчатак. Бо вёска была людная. Дзяцей не пералічыць, у кожнай хаце па двое-чацвёра, або і больш. У школу, што паставілі яе на тысячагоддзе хрышчэння Польшчы, дзеці з мястэчка ўсе змясціліся б, а хадзілі яшчэ туды дзеці з навакольных хутароў, прысёлкаў і вёсак. Удовы былі толькі тры, бабы здаровыя, магутныя, што давалі сабе рады і з плугам, і з гармонікам. Рэшта — румяныя маладзіцы, маладыя бабулі, што рана замуж павыходзілі і сваіх дочак павыдавалі, шмат іх то з-пад Бельска, то з-пад Гайнаўкі, то з-пад Нараўкі. Кожная прывезла свае песні, сваю мову, і памаленьку тая мяшанка стапілася ў адзін цікавы сплаў.

Людзі тады па хатах не зачыняліся кожны перад сваім тэлевізарам, а сядалі вечаркамі на лаўках ля сваіх сядзіб, пад сваімі ліпамі і клёнамі, спявалі песні, хадзілі на вячоркі. Маладыя ўжо тады пакуплялі грамафоны, набывалі на кірмашы і ў кіёсках танныя кружэлкі з песнямі Ляскоўскага, „Ното-цо”, „Чырвоных гітараў”, маладым польскім „бітам”, але ўсе ведалі свае песні, вясковыя. Хоць адзін радок, пачатак, адну страфу, так як усе палякі ведаюць фразу „Гуралю, чы ці не жаль...”, а далей ані трошкі, бо з горлам сціснутым горам „гураля”, п’яным носам зарываецца спявак у талерку з бігасам... А тут спявалі „Нясе Галя воду”, „Касіў Ясь канюшыну”, „Распрагайце хлопцы коні”, „Кацюшу”, „Ямшчыка”, „Аганёк”, „Оренбургский платок”, „Амурскія хвалі”, „Смело, товарищи, в ногу”... — народ ведаў усе „нашы песні”, прывезеныя з дарог і бездарожжаў вандровак „за хлебам”, бежанства, франтоў, партызанкі, і што бабулі пялі над калыскай, што дзядзькі падпявалі на сенакосе...

Найбольш іх ведае баба Іваніха. Ёй ужо 96 гадкоў. Памяць у бабы Марусі выдатная. Нават вершыкі „наізусць” памятае, што ў бежанстве яна і брат навучыліся, найбольш Пушкіна, Лермантава.

— Вось: „Белеет парус адзінокій”, — кажа баба Маруся, — вось што пра лёс чалавека паэт сказаў, які, вядома, спакой то напэўна любіць, выгады прагне, але шукае чорт ведама чаго, лётае па свеце, шчасця шукае. Неспакой яго гоніць па свеце. Можа і шчасце жыць у цікавых часах, але ж небяспечна. Але калі час быў бяспечны! Во пры маёй памяці колькі ўсяго было: вайна, бежанства, рэвалюцыя, голад, тыф мяне самую амаль не даканаў, а колькі народу Гітлер пабіў, колькі Сталін зніштожыў, колькі самых з сябе загінула... Глянь ты цяпер: колькі ж чалавечых жыццяў гарэлка зніштожыла! То ж табе яе ніхто сілай у горла не ўлівае, ніхто табе папяросы ў зубы не ўціскае, чалавеча, калі сам не хочаш! Больш яны ўгробілі народу, чым той Гітлер і яго банда. А вось самалёты, самаходы!.. Тэхніка яна то ёсць добрая справа, але здаравей мала ёю карыстацца. Вось я сваімі рукамі лепш пашыю, пасею, насаджу, і вунь колькі мне гадоў сённяка. Пастаў ты перада мною хлапца хоць у трыццаць, паглядзі ты ў яго вантробы, і мае пабач старэчыя, то ўбачыш, як усё маецца. Ну, можа, жанчыны больш пра сябе дбаюць, не атручваюцца, таму і больш жывуць. Хоць бы і ў нашай вёсцы — *сплашныя* ўдовы... Ну а паслухаць песню *дзісейшую* — адзін віск і грукат нейкі, ні мелодыі, ні слоў, а як ужо разбярэшся, то ўсё пра нейкія *пакасці* пяюць!

Бабе Іванісе, як яе называюць па нябожчыку Іване, што памёр дваццаць пяць гадоў таму, дваццаць гадоў да сёння было ўжо 76. Ніхто не скажа, каб у такім узросце маладухай быць, але якраз яна найбольш „шалела” на сцэне ў новай святліцы. І найбольш з былога яна ўспомніла — і з песень, і адзежы, і абычаю. Сабраліся тады бабы, прывалаклі сваіх чалавекаў. Некаторыя мужыкі крыху ўпіраліся, потым яшчэ ў той вечар доўга курылі, тапталіся пад вокнамі ў асенняй зябкай цемры, аж рашыліся, пазаходзілі, пасядалі на лавах пад сценамі, пачалі слухаць, самі ўключыліся з жартамі, падпяваннем.

Сарганізавалі тады калектыў. На рэпетыцыі кожная несла што найсмачнейшае згатавала — якой удаўся слаўны пірог, якая зрабіла бутэрброды, што самі ў рот аж прасіліся, галубцы, падпівак... Тады лягчэй яшчэ ўсё ўдавалася, сваё танней было за купнае, і ў крамах нічога не бракавала, таннае досыць усё было, а ніхто свайго часу не лічыў. Найбольш актыўных было асоб дваццаць жанчын і двух мужыкоў, ужо дзядзькоў. Хлопцы і маладыя былі нейкія сарамлівыя, на прыёмах якасьці хутка п’янелі, добра, што хоць не перашкаджалі. Спачатку, вядома, каторы смяяўся: „На халеру табе гэтыя *прубы*, упраўся ты лепш з жывінаю, дружыну накармі, чаго табе, вясковай бабе, перціся на *выстэмпы*!”. А пасля шмат які ездзіў з імі ў горад, у гміну, на агляды. Кожны мужык стаў найлепшым заўзятарам.

Гуртам паправілі выгляд вёскі, праклалі тратуары. Сварак ды непаладкаў тады ніякіх не было. Усе былі роўныя, хоць, вядома, не кожнай Бог даў голас і выдатны слых ды *дрыг* да „штукаў”. Найлепшая была Ганна, „найцікавейшая”, як казалі. Усё ёй удавалася, патрапіла такое выдумаць — з амаль нічога атрымліваўся шэдэўр. Яна была і рэжысёрам. Выступала з імі дзесяць гадоў. І быў у Ганны інсульт. Дома ўжо дзесяты год сядзіць, дзе ёй да спеваў. Ледзве зможа што-кольвек пры сабе зрабіць, на гаспадарцы муж і сын усё робяць...

Ну а цяпер... Дваццаць гадоў. Верка пералічвае: будзе яшчэ ва ўсёй вёсцы чалавек пятнаццаць „на ходзе”. Улічваючы, вядома, бабу Іваніху, хоць яна не бабулька а іскра, ды ўжо больш тэараэтычна дапаможа ў нечым. Баб, раўняючы да іншых вёсак, ёсць нямала, але сабрацца не збяруцца. Вось Ніля з гэтага канца вёскі насмерць перасварылася з Валькай з другога. Не размаўляюць адна з адною гадоў шэсць. Невядома, ці яшчэ памятаюць, чаму злуюцца, ад чаго ўсё пачалося, але абедзве прынцыповыя. Солтыса выбраў гэты канец вёскі, бо на выбары той канец не прыйшоў. Верка спрабавала арганізаваць якую сустрэчу ў зачыненай цяпер штодня святліцы, бегала, прасіла, каб прыйшлі ўсе хто зможа, і калі прысунулася з калочкам былая прыгажуня і запявайла Ганна, выйшла з залы Кацярынка Салаўіха. А гэта таму, што быццам з-за Ганны Кацярынку муж калісьці пакінуў (жыве ён, дарэчы, з іншай жанчынай, да таго старэшай за абедзве, ці не ў Гайнаўцы). Ні Ганне, ні Кацярынцы сёння не да страсцяў, але крыўда сядзіць як стрэмка ў душы... Хацела Верка Хвайко правесці тэлефоны ў вёску, нават наладзіла ўсё ў Беластоку, то паўвёскі сказала, што грошай не дадуць, хоць маюць, частка іх не мела, а іншым было ўсё адно — нашто тут нейкія тэлефоны, калі праз пару гадоў увогуле яе не будзе і не трэба будзе нікому і нідзе тэлефанаваць?! Хацела Верка, каб праклалі тыя два кіламетры асфальту ад шашы, бо гравейку ўсё дажджы размываюць, сцякае дарога штовесну ў равы. Солтыс пачаў збіраць подпісы, набегалася і Верка, нахапалася халоднага паветра, а падпісаліся толькі восем асоб з усіх гаспадароў, што асталіся ў вёсцы. Бо не вымерла ж яна, людзі тут жывуць, хоць старэчы амаль ужо ўсе. Ну, Верцы ўжо 65. Што гэта за ўзрост сёння?..

— Калі чалавек дыхае, мае ўсё надзею, што будзе лепш! — верыць у гэта Верка Хвайко. — Калі не табе, то хоць тваім унукам.

Праўда, але Верчыны дзеці і ўнукі — усе ў гарадах, сама іх туды павысылала калісьці, „каб лягчэй ім жылося”. Адна сядзіць тут з хваравітым мужам, неяк даюць сабе рады з гаспадаркай, бо ў сямідзесятых гадах пакуплялі ўсе машыны, і, дзякуй Богу, нішто дагэтуль не папсавалася.

Можа ўдасца Верцы зварухнуць яшчэ сваіх аднавяскоўцаў да нейкага... подзвігу? Ну, хоць каб адсвяткаваць свой юбілей?

— Ну, Ніля давай, будзем арганізаваць сустрэчу, падрыхтуем гасціну, сазвем усіх, хто з намі выступаў, хто да нас прыязджаў, хто дапамагаў... Усіх, хто яшчэ ў жывых. Можа, кожнаму дыплом дамо, які падарунак адзін аднаму?.. Ну, хто будзе: я, ты, Антоля, Груша, Кацярынка, Валька, Ганну прывязем...

— А нашто табе Ганна? Яна ж ужо дзесяць гадоў з намі не выступае! А нашто падарункі кожнаму? Ну, калі табе трэба тая Ганна, не разлічвай на мяне!

— Ці не сорамна так выгаварваць, касавурыцца? Можа, кожнай з нас мала ўжо жыцця асталося, давай, хоць усё добрае паўспамінаем, га?

— А ідзі ты. Калі табе гэта трэба, то рабі сама! Усё прапала, чаго тут кранаць памерлае.

— А хто гэта ўсё знішчыў? — пытаю я. — Само ж з сябе нічога не прападае...

— Ай, сілы няма. Няма моцы. Надзеі няма. Для каго ўсё гэта рабіць? Хіба, для смеху! — бурчыць Ніля. — А пайшлі вы з вашымі юбілеямі! З тэлефонамі, з асфальтам! Гэты твой асфальт, Верка, праз тры гады зелле падыме. Прычым тут твае дваццаць гадоў! Лёс нас тут кінуў, як для нейкага эксперыменту, як для вопыту, каб бачылі, як усё наша прападае. Кідала нашых людзей то сюды, то туды, аж выкідала. Адно пакаленне пакутавала ў бежанстве, другое вайна пабіла, паганіла, а трэцяе самое ўцякло. Хто тут на такое дасць раду, што пісана было даўно ў небе!..

— Ой, *мондро* ты кажаш, Ніля, але ж жыць нам яшчэ крыху трэба, і ніхто нам у гэты не пасобіць, — уздыхае Верка.

Сядзім на лаўцы пад старой Верчынай ліпай. Дрэва было ўжо немаладое, вялікае, як вярталася з бежанства амаль уся вёска. На руіны тады вярнуліся, на зарослыя крапівою родныя падворкі, у разбітыя хаты. А цяпер сяло — усё ў кучаравых, разгалістых дрэвах, у кветках, з тратуарамі, акуратнымі дварамі, чыстай, амаль бязлюднай вуліцай. І з кожнай другой пустой хатай з удзірванелым панадворкам, куды нага чалавечая даўно не ступіла.

**Міра Лукша**

# Радзіма — Родзіна

**Частка XXIII**

Разважаючы аб праблемах, звязаных з разуменнем айчыны, мой бацька досыць шырока расказваў аб перыядзе міжваеннай Польшчы, аднак адчувалася, што назіранні і вопыт вынесеныя ім з часоў першай сусветнай вайны і асабліва з перыяду кастрычніцкай рэвалюцыі маюць як бы прыярытэтны характар і што якраз да гэтых падзеяў вяртаецца ён тады, калі гаворыць аб даваеннай, а нават пасляваеннай Польшчы.

„Ну, я табе гаворачы аб акцябрскай рэвалюцыі, то не сказаў яшчэ таго, што Троцкі гэты то быў вялікі аратар. Калі ён гаварыў, то людзі валнавалісе на пляцы як морэ, некаторые кідалі шапкі ўверх, часто пляскалі, крычалі „Ура!” або крычалі: „Долой мировую буржуазию! Даёшь Европу! Да здравствует республика пролетариата всего мира!” От, бачыш, так ён умеў схваціці людзей за душу. Што ні гаворы, але гэто быў разумны жыд, хоць трэбо сказаці, што тое, што ён гаварыў, што ўсе людзі свету хочут меці адну савецкую родзіну то гэто, па-моему, было глупство.

Ну, але я табе пачаў гаварыці пра той час як мы вярнулісе ў Польшчу. То ведомо, што з самых грыбоў і рыбы то ні можно было жыці. Але ж яксе людзі выжылі. А як яны выжылі? Я табе скажу так. Кажды хто прыехаў з Расеі, то прывёз крыху золата. То ж за цара то было так: хочэш беры папяровы грошы, а хочэш то беры залатыя манеты. То знаеш, людзі дуракі, бралі папяровы і гаварылі, што манеты лягчэй згубіці, бо слізкі яны і з кішанёў вылазят. Найбольш то мы прывезлі з Расеі царскіх папяровых грошэй і трымалі іх аж да 1939 року. Бо думалі, што пры саветах царскі грошы будут важны. Але дудкі, саветы прывезлі свае грошы. Ну то некаторы трымалі аж да німецкае акупацыі. Надзеяліся, што Гітлер да ўласці дапусціт рускаго цара і грошы царскі пачнут хадзіці. Але ніякаго цара Гітлер ні даў. То ўжэ тады людзі тые царскі грошы пааддавалі дзецям, каб гулялі. От свае я таксама вам аддаў, помніш?

Трэба сказаці, што і я тых царскіх грошэй поў куфэрка прывёз, ніведомо на што. Хто разумнейшы быў, то прывёз много залатых манетоў. То той хутко пачаў добрэ жыці, бо жыды як толькі знюхалі, што бежанцы мают золато, то добрэ за яго плацілі. Я то ўсяго прывёз штэры залатые манеты дзесяцірублёўкі. Прадаў іх жыдам і купіў кароўку. Кароўка прывяла бычэчка. Бычэчка вылекчалі і вырас добры вол. І Міруці таксамо мелі вала. Мы іх спраглі, залажылі ў соху. Помню Ёзыб Міруць вывёў баразну можэ так на сажняў сто, аглянуўся і крыкнуў: „Андрэй, добрэ ідзе, спраўно скіба лягае! Гэтымі валамі можно ўсю родзіну загараці!” От так і гаралі. Валы хадзілі ў ярме, цягнулі лепш, чым коні. Вол вельмі сільны, толькі абучаці яго цяжко.

Цяжко было цэлы час пры той санацыйной Польшчы. Жылі ў страшнуй бядзе. Хаты асвятлялі лучынаю або дранкамі. После ўжэ капцілкамі, але газа была дарагая. Запальвалі капцілку толькі тады, калі поўнасцю сцямнело. Па хатах поўно было блох і блашчыц, а ў многіх хатах то і вошэй. Зарабіці не было дзе. Мужчыны займалісе арэлькаю, ганялі пасы з Белавежы аж у Тыкацін. Страшна гэто была работа. Ганялі весною, калі вяліка вада. Часто была халадэча, а начавалі на пасах у будках. Ні адзін схваціў сухоты і памер. Ну, а бабы хадзілі на заробкі ў Ялоўку, Нараўку або ў Нізбодку, усюды па 12—14 вёрст. Трэбо было зайсці прыцемком і вернуцца прыцемком. Цэлы дзень працаваць у жыда, каторы плаціў па 50 грошэй. А кілё цукру тады каштавало залатоўку. Значыцца трэбо было працаваць два дні на кілё цукру. От такая гэто была наша родзіна. Здаровы хлопцы хадзілі аж за Валілы, больш як дваццаць вёрст. Там будавалі дарогу. Білі молатамі цэлы дзень камене. То за гэто зарабляў два злоты. Лічыўсе гэто добры заробок, але і праца была катаржна. Ты ж толькі падумай, цэлы дзень молаціском валіці. Рукі адбірало: кроў з носа ішла. Ну, калі чалавек быў здаровы, то яксе квітаваўсе, а калі захварэў то здыхаў. Грошэй на дахтароў у нікого ні было.

Дзесь так каля 1925 року, то пачалі ў нас Грамаду арганізаваці. Прыязджалі агітатары і гаварылі, каб уступаць у яе і што гэто Грамада даб’ецца ад Пілсудзкаго добраго жыцця для беларусоў. Той-сёй уступіў у гэту Грамаду, але я то ні ўступіў. Я ўжэ у часе акцябрскае рэвалюцыі наслухаўсе гэтых абецанак аб шчаслівым жыцці і ведомо што з тых разгавораў вышло! І што ты думаеш? Можэ так прашло лет два і той Пілсудзкі так даў гэтуй Грамадзе, што з яе толькі пер’е пасыпаласё. Паліцыя ўсё паразганяла, актывістаў паарыштоўвала і нават беларускіх паслоў у цюрме пасадзіла. От табе і паказалі яны Пілсудзкаму! А от Пілсудзкі то ім паказаў, разагнаў к чортавай мацеры і на гэтум усё скончыласё. Што там гаварыці, хто мае ўласць, той і пан. Пілсудзкі яе меў, то ён значыцца і быў паном. А беларусы то жылі так, як жыла жывіна. Ніхто не вучыўся, от так пару класаў і ўсё. Каб вучыці сына чы дачку ў гімназіі, то трэбо было прадаваці кожны месяц карову. А як прадасі, калі ў мужыкоў было найчасцей па адной або па дзве кароўкі?.. Жылі бедово. От такая была наша родзіна перад вайною”.

**Алесь Барскі**



 

# НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ — ЖНІВЕНЬ

Краснае лецейка нікому не надакучыла.
Што поле ўродзіць, тое жнівень пазвозіць.
Кожная хата ў жніўні багата.
У жніўні лета насустрач восені ўскач бяжыць.
У жніўні земляробу тры клопаты: і касіць, і араць, і сеяць.
Барыс з Ганнай не гуляюць, святому Ільі памагаюць.
Як на Ганну ранак халодны — будзе і зіма халодная.
Хто на Сілу жыта пасее — у таго на хлеб надзея.
Хто ў жніўні гуляе, той зімой галадае.
Якія Антоны — такі і кастрычнік.
Прыйшоў Спас — усяму час.
Па Спасе трымай рукавіцы ў запасе.
Прыйшоў Спас — і лета ад нас.
Пасля Мацвея мужык на полі не пацее.
На Лаўрэна глядзелі апоўдні на ваду: калі яна ціхая, то і восень чакалася ціхая, а зіма без завірух.
На Лаўрына спяшай да млына.
Калі дождж пайшоў з сярэдзіны дня — зацягнецца надоўга.
Сухія галінкі ў ціхае надвор'е з дрэў валяцца — на дождж.
Вераб'і хаваюцца пад страху — будзе бура.
Гракі ходзяць па траве — на дождж.
Сярод цёмных хмар ідуць хмары белыя — будзе град.
Калі на Міхея вецер ціхі, то восень будзе добрая, сухая; калі моцны — восень дажджлівая.
Свята Прачыста — ў полі ўрачыста. Успенне — ці гатова насенне.
Прыйшлі святкі — апалі лісткі.

**Падборку зрабіў**
**Янка Целушэцкі**

# Пад якім сузор'ем

**ДЗЕВА**, 24 жніўня — 22 верасня. Мужчына, народжаны пад гэтым сузор'ем, халодны, але ў каханні пастаянны. Калі раз прачнецца ў ім сапраўднае каханне, будзе вельмі верны. Любіць жанчын з моцным пачуццём мацярынства і сямейнасці, сам таксама вельмі жыццёвы, практычны, старанны. Дакладнасць яго часам пераходзіць нават у педантычнасць. Сам сабе часам шкодзіць празмернай крытыкай, якая ў яго бывае вострай. Добра сужываецца з жанчынамі з-пад знака Быка або Казярога, горш — з-пад знака Блізнятаў.

Жанчына мае вельмі складаны характар. Яе цяжка зразумець. Яе інтэлект здаецца значна мацнейшы, чым парывы сэрца. Яна настроена крытычна, вельмі патрабуючая да партнёра. Найлягчэй ёй знайсці супольную мову з людзьмі, народжанымі пад знакамі Льва і Казярога, цяжэй — з-пад знака Блізнятаў. Шчаслівы дзень — серада, месяц — сакавік, колер — цёмна-жоўты, каштоўны камень — агат, кветка — архідэя.

# ЯК ШТОРУОК...

— Што, Надзё, пісьмо ад дзіцей дастала?

— Але, дастала. Як шторуок пад Коледы, Велікдзень, Дзень кабет, Дзень маткі што-лень там напішут. Летом, у ліпцэві то ўсе з'едуццэ. Тады то радасць і гоман у хаці. Здаеццэ, варнулісэ маладые ліета.

— Ой! Мая галубко! Ні вэрнуццэ ваны ніколі! Усё так хутко прайшло, а, здаеццэ, было туолькі ўчорэ! — матае галавою Верка.

— То праўда. Чы я думала, што дажду ўнукоў? Туолькі што далеко ваны. То ў Варшаві, то ў Гданьску... Прыедут раз у руок на цэлы міесец, і ўсё. Седжу сама бы той калок у пустуой хаці. Ужэ дзесець ліет, як німа маго Валодзі.

— Добрэ, што маеш спакуой. У мане тых двух ганавічнікоў, ні ваны ажэняццэ, ні дзе выедут! Седзят на маём каркеві і п'ют, заразы нічыстые! Якось дачка выйшла замуж і сын ажаніўсэ, а гэтых двух хоць ты на сьміетнік вадзі! Ні раз падумаю, у каго ваны ўдалісэ?! Муой Косьця ні быў п'яніца. Усю выплату мне аддаваў, а я ім жондзіла, а тут на табе! Малодшы сын да нічого!

— Можэ ты, як хадзіла ў цёнжы, то ваду налівала ў калодзесь?

— Што ты! У мане ніколі ні было такое моды! Такіе ўжэ, чэрці, удалісэ! Ні заўшэ нуоч у хаці начую...

— У мане дзеці нікепскі. Усе добрэ вучылісэ і паехалі далеко. Ужэ я на эмэрытуры, і ўнучкам і праўнучкам грууш будзе. Цепэр так з гэтаю работаю: сегоні робіш, а заўтрэ цябэ звольнят і руок табе паплацят, а пуозьней седзі галодны і халодны! От гэта „Салідарнасьць" нарабіла бэды!

— То ні „Салідарнасьць", а ўсе людзі здурэлі! Як у Сігеньковых была адна сарочка на ўсіх мужчын, то ўжэ німа што казаць аб дабрэ, а як пачалі санацыйные грабі і шляхціцы даходзіць да ўлады, то Касьцюк сказаў, што цяпэр будзе добрэ.

— Много людзей затуманілàсо, а цяпэр нарэкают, ой, пуозно! Так у Сыбылі пісало, і так ванэ е. Мусі, ужэ хутко будзе канец сьвіету, бо туолькі ашуканцоў паявілàсо! Ест такіе на ўсё верны людзі, і ашукоўвают іх усе тые ашусты!

— Якіе людзі, то такіе і часы! Цепэр малое дзіця знае, як дзеці родзяццэ, а калісь того ні было! Жэнілісэ і замуж ішлі, і ні знали, як і што...

**Запісала Аўрора**

## Варта ведаць, што...

... жнівень — апошні летні месяц. Назва паходзіць ад „жніва", найбольш важнай падзеі ў жыцці земляроба. Руская назва август запазычана з лацінскай мовы (імя рымскага імператара Аўгуста).

Звычайна жнівень халаднейшы за ліпень, але прыкладна раз у 5 гадоў бывае наадварот. У другой палове месяца зрэдку магчымы замаразкі на глебе, пераважна ў катлавінах, далінах, на асушаных тарфяніках.

У разгары збор брусніц, касцяніц, ажыны. Паступова пачынаюць збірацца ў вырай птушкі, першымі на сярэдзіне месяца адлятаюць чорныя стрыжы, крыху пазней — ластаўкі і іншыя.

Жнівень — самы багаты месяц на грыбы; растуць лісічкі, ваўнянкі, сыраежкі, падасінавікі, падбярозавікі, баравікі, маслякі, рыжыкі. Працягваюць збіраць лекавыя расліны: карані дзягілю, дзівасілу, валяр'яну, плады шыпшыны, чаромхі, шышкі вольхі і хмелю.

**(яц)**

9 жніўня 1995 г.
пасля працяглай і цяжкай хваробы
на 58 годзе жыцця
памёр

**БАРЫС ЖЭШКА**

шматгадовы інструктар
беларускіх самадзейных калектываў.
З прычыны здарыўшагася гора
шчырае спачуванне сям'і
пакойніка
выказвае рэдакцыйны калектыў
„Нівы"

## Карысныя парады

Янкі Целушэцкага

Пры абіранні буракоў не трэба адразаць корань да канца, інакш у час варкі ён святлее.

* * *

Пах выкіпеўшага на пліту малака непрыемны і хутка распаўсюджваецца па ўсяму жыллю. Накрыйце выкіпеўшае малако вільготнай газетай і папырскайце яе зверху воцатам. Воцат поўнасцю паглынае пах згарэўшага малака.

* * *

Смажаная рыба будзе асабліва смачнай, калі вы перад тым як смажыць, патрымаеце яе ў малацэ. Затым абваляйце ў муку і смажце ў алеі. Каб алей не распырскваўся, накрыйце патэльню перавернутым дуршляком.

* * *

Каб свежая рыба (асабліва шчупак) не пахла балотам, трэба вымыць яе ў халоднай, добра пасоленай вадзе.

* * *

Калі на рыбе або птушцы выпадкова разлілася жоўць, трэба старанна працерці перагорклую частку соллю і прамыць халоднай вадой — горыч прападзе.

* * *

Калі пячы мяса ў духоўцы, трэба паліваць яго толькі гарачай вадой або булёнам: ад халоднай вады яно робіцца жорсткім.

* * *

Пячонка робіцца вельмі смачнай, калі перад тым, як смажыць, патрымаць яе дзве-тры гадзіны ў малацэ.

## ПАРНАС і К°

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### Янка Целушэцкі

Выдатны паланіст,
Відны беларусіст.
Піша ў „Ніву",
Бо не лянівы.
Творыць шмат гадоў
Многа сваіх пладоў
На ніве роднай —
Дарагой і выгоднай.
Каб свабодна расці
І сябе добра вясці,
Не цурацца сваёй мовы
І цудоўнай размовы.
Целушэцкі, напрыклад,
Дае нам прыклад —
Піша ў „Ніву" весткі
Свежыя, як летам кветкі.
Ад „Зоркі" працу пачаў,
Фундаменты ведаў паклаў,
Каб падымацца вышэй,
Да роднай мовы бліжэй.
Быў шанаваным настаўнікам,
Добрым, не ўраднікам,
Вучні яго любілі,
У яго гонар брава білі.
Ён і паэт цікавы,
Піша вершы на славу,
Шпарыць праўду адкрыта,
Прыгожа, не скрыта.
Яго цудоўная кніга
Цёплая, як адліга,
Панарама нашых гмінаў
Прыгожая, як балерына.
Жадаю больш такіх кніг,
Каб расходзіліся ўміг.
Ад сэрца жадаю яму
Здароўя — куміру майму.

**Мікалай Панфілюк**

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ▒ | 5 | 6 | | ▒ | |
| 7 | 8 | ▒ | | ▒ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ▒ | | ▒ | 12 | 13 |
| | ▒ | 14 | | 15 | ▒ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. вершаваны твор на гістарычную тэму, 3. вызначае стораны свету, 5. месца пахавання, 7. загарадны дом, 9. падатак на Паволжы і Сібіры, 10. голас, які дапамагае асноўнаму спеву, 11. горад заснаваны Кіем, 12. двухколы воз у Сярэдняй Азіі, 14. заява аб няправільнай дзейнасці, выражэнне незадавалення, 16. пакідае дрэва восенню, 17. рака ў Арменіі.

**Вертыкальна:** 1. частка твару, 2. фігура ў картах, 3. суцэльны круг, 4. волат, 6. брытанская калонія на Пірэнейскім паўвостраве, 8. бальшавіцкі герой, 9. чорная тапаля, 11. сталіца Руанды, 13. дурань, 14. лёгкаатлетычная эвалюцыя, 15. напр. Эльбрус.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 27 н-ра:** чабарок, дырыжор, багатыр, гарэлка, Валэнса, каравай, Раксана, цюльпан, шпілька, дагадка, гармата, місачка.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# З аўцюкоўскага гумару

### Маўчы ды чэрпай

З тым дзедам-самагоншчыкам была яшчэ адна гісторыя.

У Аўцюкі нечакана ўляцела міліцэйская машына. Зноў вобыск.

Дзед меў некалькі хвілін і вось што змікіціў. Выліў самагонку ў вядро і паставіў на лаву ў сенцах.

Побач кубак падвесіў. Будзь ласкавы, каласок, напіся, калі смагу маеш.

Улятаюць да дзеда вобыск рабіць. Усе тайнікі абшарылі, а самагонкі не знайшлі.

Вяртаюцца ні з чым. Ды раптам бачыць капітан — шчафёра развезла. Язык заплятаецца.

— Што з табой, браток?.. Дзе паспеў лыкнуць?..

— У дзеда... Зайшоў у сенцы папіць... А яна смачная, халера, як самагонка...

— Круці назад!

Уляцелі ў дзедавы сенцы. Кінуліся піць з вядра. А там ужо і папраўдзе з калодзежа вада.

— Ну, дзед, ну, пачакай!

### Спакойны злодзей

Аўцюк уладкаваўся працаваць на мясакамбінаце.

Агледзеўся — усе крадуць. Яму, як пачаткоўцу, засталося каровіна вымя. Схаваў ён яго ў штаны.

Едзе ў аўтобусе. Раптам адна жанчына як закрычыць:

— Вой, каласок, што гэта ў цябе?

Зірнуў Аўцюк, аж цыцка ад вымя вылезла з штаноў. Ён доўга не разважаючы, выхапіў нож і адрэзаў яе.

— Вой!.. Што робіш?.. — закрычалі жанчыны.

— Нічога, калінкі, у мяне іх яшчэ тры!..

*Звязда*

# СЕНТЭНЦЫІ

Вясною прырода цешыцца жыццём краплістымі слёзамі.

* * *

Парывісты вецер, што галоп усляпую — і ржанне гучнае, і капыт тупат, і свіст развеянай грывы.

* * *

Жыць, значыць бегчы ад пакуты да пакуты з рафінадам у губах.

* * *

Святы той, хто яшчэ не нарадзіўся.

**Барыс Руско**

# НІЎКА

Хачу адкрыць Вам, спадарыня, свой багаты унутраны свет

Мал. Леаніда Разладава

# Народныя прыпеўкі

Восем лет кароўкі нет,
Малачка жадаецца.
Пайду курачку даіць,
Курачка брыкаецца.

Дзве бабулькі без зубоў
Гаварылі пра любоў:
— Мы з табою ўлюблены —
Ты ў капусту, я ў бліны.

* * *

Не хадзіце, дзеўкі, у лазню,
Не хадзіце парыцца.
Ад гарачае прыпаркі
Пудра ўся адваліцца.

* * *

У падружкі фартух белы,
А ў мяне ружовенькі.
У падружкі мілы сумны,
А ў мяне вясёленькі.

Я па кладачцы хадзіла,
Кладачка ўгіналася.
Аднаго толькі любіла,
Восем набівалася.

Падборку зрабіў
**Янка Целушэцкі**

# ЖОНКА

Рвецца там, дзе надта тонка.
І мяне ганяе жонка.
Я — плячысты на жывот,
а яна — што калаўрот.

Ой ты, жонка-беражонка...
А была дзяўчынай гонкай.

Чым з такою ведзьмай знацца,
мо ў другую закахацца?
Чую, як раскрые рот:
— Пудзіла, на агарод!

Ой ты, жонка-беражонка...
А была струною звонкай.

Пушкін жонкай ганарыўся,
перад куляй не скарыўся.
І мяне аж навылёт
працірае жонкі шрот.

Ой ты, жонка-беражонка...
А была пяшчотнай гронкай.

Рвецца там, дзе надта тонка.
О, мяне „шануе” жонка!
Чую: — Ты падэшва, бот,
з пекла самы страшны чорт.

Ой ты, жонка-беражонка,
светлых дзён маіх скарбонка!

**Сяргей Панізнік**

# СМЕХ У САНАТОРЫІ
### або „Даўціпы” з альбома Андрэя Гаўрылюка

Пасажырскі лайнер патануў у акіяне. У ліку ахвяр апынулася жонка шатландца. Па двух тыднях атрымоўвае ён тэлеграму: „Цела вашай жонкі, пакрытае малюскамі і вустрыцамі, вылавілі ўчора з мора”. Шатландзец вокамгненна адтэлеграфоўвае: „Малюскі і вустрыцы прадаць, а цела нанава затапіць”.

* * *

Пробашч паціху жыў са сваёю гаспадыняю і з гэтага сужыцця меў трое дзяцей. Аднойчы даведаўся, што мае да яго прыехаць з душпастырскім візітам біскуп. Пасадзіў дзяцей на шафу і загадаў, каб зусім не варушыліся. Аглядаючы плябанію, уладыка ўгледзеў дзяцей на шафе:

— А гэта што такое?

— Гэта мае скульптуры.

— А калі знаходзіце час на разьбярства?

— Па начах стараўся, ваша міласцівасць.

* * *

Федзя прыглядаецца, як яго Оля вучыць сабаку служыць:

— Перастань, дарагая, не мучся, гэта не ўдасца...

— Удасца, удасца. З табою таксама мне на пачатку не выходзіла.

* * *

— Ці магу шаноўную спадарыню адвесці дадому?

— Прыкра мне, але я ўжо замужняя.

— А я жанаты і мне таксама па гэтай прычыне прыкра.

* * *

— Чаму ў Польшчы міліцыянты ходзяць патруляваць парамі?

— Адзін умее пісаць, а другі — чытаць.

— А чаму ў Савецкім Саюзе ходзяць чацвёркамі?

— Бо двух пільнуе вучоных.

* * *

На басейне знерваваны ратаўнік галасна свішча.

— Эй вы, маеце хутка пакінуць басейн!

— Чаму?

— Бо вы сікалі.

— Усе сікалі...

— Але з трампліна толькі вы.

* * *

На сямейным банкеце гаспадыня палівала гасцям гарэлку, пастаянна абходзячы чарку анаго з іх. Урэшце ён пытае яе:

— А чаму ж мне не наліваеш?

— Бо ты абстынент.

— Не, я — імпатэнт.

— Так яно і ёсць: муж гаварыў, што табе не варта даваць.

# НІКОЛІ НЕ ЗАБУДУ...

— Нарадзілася я зараз пасля першай вайны, — успамінае баба Агата. — Была найстарэйшая, то работы не бракавала. Пільнаваць малодшых сясцёр ды братоў, памагаць у гаспадарцы... Цяжка было, вядома. Але хоць добра, што мама жылі, бо маёй сяброўкі Насці маці памерла, а тата „аслеп” — ажаніўся з другою, што ненавідзела падчарыцу і намаўляла мужа, каб малую біў ды выгнаў з хаты ў служанкі. Я крадком давала Насці хлеба і час-часом крала ў маці для яе скрылёчак сала. Шкада было дзяўчынкі. Калі Насці споўнілася шаснаццаць, аддалі яе за саракагадовага ўдаўца. Вось, маеш лёс.

Перад другою вайною замуж я не выйшла. Тады то кожны ўсё глядзеў на твой пасаг. А што ж маглі мне даць мае бацькі з тых пяці гектараў, калі нас дзяцей у хаце васьмёра? Багаты сусед, у якога быў адзін сын і дзесяць гектараў, смяяўся з нас. Не даваў проста прайсці, усё паўтараў: „Вось, Барысок-дурачок, цяліў на сваім пятку васьмёрку бобу. Куды іх дзенеш?”

— Не бяда, — адказваў тата. — Сыноў аддам у прымы, а дачок замуж.

— Ты, галыш, а хто ж захоча твой „боб” у сваю хату ўзяць?

Працавалі мы нялёгка. Галодныя не былі і вопратку спраўлялі сабе, як трэба. Але пра вучобу ніхто з простых людзей і не думаў. „Нашто, — гаварылі старыя, — дарам ламаць сабе галаву? Гэта толькі панам быўшы можна чаго-лень дабіцца. З кніжкі есці не будзеш!”

Так вось ад маленства звыкліся мы з працай. Кожная дзяўчынка ўмела ткаць, прасці, вышываць і шыць вопратку. Хлопцы, зноў: араць, малаціць, жаць, касіць...

Найгорш, калі раненька трэба было ўстаць кароў пасвіць. У ножкі так халадна. Карова насікае, то ты ў гэтым хоць ногі пагрэеш! Цяпер-то дзеці такога гора і не ведаюць, здаецца ім, што нейкая казка ўсё гэта, што ім расказваем.

Як прыйшлі саветы, думалі мы, што лепш будзе. Пасля было непрыемна, што цэркві нам думаюць зачыняць, кажуць, Бога няма! Найгоршы быў дзень, калі ў вялікі пост зрабілі нам выбары. Хто ўкінуў картку ў скрынку, то трэба было... затанцаваць з паліт-руком! Ну і танцавалі мы, хто ж хацеў быць пакараны!..

Але, кепскае чалавек хоча забыць. Мелі мы надзею, што, усё ж, будзе лепш. Толькі багацеі, як мой сусед, не маглі сцярпець, што іхнія дзеці трактуюцца так як і іншыя, беднякоў. Вучылі нас усіх чытаць і пісаць. Па-руску. Хто здольны, казалі, будзе вучыцца далей, будзе карысным для грамадства чалавекам, а не слугам, як за панскай Польшчы.

Наш сусед-багацей як на сто коней сеў, як немец прыйшоў. „Зробіць ён тут парадак!” — паўтараў.

Немец зрабіў свой парадак. Нашу вёску выселіў і спаліў нашы хаты. Суседавага сына ўзялі з іншымі на прымусовыя работы ў Германію. Я жыла ў старэйшых гаспадароў — Лізы і Фрыца. Са мною быў Тадэвуш з-пад Граева. Кармілі нас дрэнна, праца цяжкая. Ратавалі нас крадзеныя курыныя яйкі.

Прыйшлі рускія. Гаспадароў узялі на допыты, а да нас чапляліся, чаму не пайшлі ў падполле, не ўцяклі ад немцаў. Пусцілі ўрэшце нас дадому. Тадэвуш хацеў са мною жаніцца, але я не хацела ісці да яго без дазволу бацькоў. Дабралася я дахаты, сказала пра нашыя планы бацькам. Яны і слухаць не хацелі, каб я замуж за паляка выходзіла!

Тадэвуш прыязджаў да нас, але мае бацькі яго прагналі. Я яму растлумачыла, што павінна іх слухацца, бо мужаў можаш мець колькі хочаш, а бацькі ў цябе адны. Вось так мы і расталіся.

Аддалі мяне замуж за Рамана. Трэба было будавацца, дзяцей гадаваць. Як той казаў, усё жыццё праца ды праца. Перад вайною мы хоць пры гэтым спявалі, каб забыць гора. А хто заспявае сёння?

Добра, што дзеці павыходзілі на людзей, школы паканчалі, працуюць. Нам, старым, рэнты хапае. Толькі гэтыя ўлады так усё мяняюцца, то ўсё думаю пра сваіх унукаў. Ці знойдуць працу? Як ім будзе жыцца? Цяпер хоць ты будзь магістр, то ў беспрацоўныя пойдзеш...

**Запісала Аўрора**